

# ЕДНАСЬЦЬ ДУХУ Ў САЮЗЕ МІРУ

Дык я, вязень у Госпадзе, малю вас паступаць дастойна закліку, якім вы пакліканы, з усенькай мудрасьцяй пакоры і ціхасьцяй, з доўгацярпліва-сьцяй, церпячы адзін аднаго ў любові, стараючы-ся захаваць еднасьць духа ў саюзе міру.

Адзін Госпад, адна вера, адно хрышчэньне, Адзін Бог і Айцец усіх, Які над усімі, і праз усіх, і ўва ўсіх нас.

Эф.4; 1-3, 5-6

Дарагі чытачу! Амаль год мінуў з таго часу, калі ўпершыню зьявіўся сьвету часопіс "Унія" і калі пачалі прабівацца ўгору скрозь нявер'е і непаразуменьне першыя парасткі адроджанае Грэка-Каталіцкае Царквы на Беларусі. Прыгожая сьветлая мара, "залаты сон" Беларусі паступова пачынае рабіцца рэальнасьцю. І цяпер надзвычай істотна, які шлях абярэ Царква, на якія духоўныя вышыні ўздымецца, што дасьць яна нашай зямлі.

Вышэйшаю праяваю хрысьціянства ў сьвеце ёсьць любоў. І менавіта любоў мусіць несьці Царква нашаму раз'яднанаму народу. Любоў і давер. Да Бога, да боскасьці ў любой чалавечай істоце, да кожнага чалавека – і, тым больш, да кожнае хрысьціянскае канфэсіі. Досыць ужо злаваць на іншых за тое, што яны ня хочуць стаць такімі, як мы. Хай усе будуць рознымі і ў розны спосаб славяць Адзінага Бога. Час паглядзець адно аднаму ў вочы, паглядзець з дабром і любоўю. Час сумовіцца. Бо нас значна большае лучыць, чым разьдзяляе.

Так сталася, што адзіная калісьці Хрыстовая Царква распалася на некалькі канфэсіяў, і ня нам цяпер судзіць тых, з чыёй волі гэта адбылося. Нам – празь любоў зразумець кожную з канфэсіяў ды пастарацца ўбачыць ў іх Хрыстовае сьвятло і чалавечую мудрасьць, што назапасілі яны за свой век. Нам – шукаць шляхі да пераадоленьня варожасьці між хрысьціянамі. Нам – залячыць раны, нанесеныя людзкай сьвядомасьці шматвяковым процістаяньнем і аднавіць хрысьціянскае жыцьцё ў нашым краі. Першы крок насустрач хай зробіць мудрэйшы.



ЧАСОПІС ХРЫСЬЦІЯНСКАГА СУМОЎЯ №1(3)1991




МАЛІТВЫ ДА ГОСПАДА

ЦАРУ НЯБЕСНЫ, Пацяшыцелю, Духу праўды, усюдыпрысутны і ўсёнапаўняючы, скарбніца дабра і жыцьцядацелю, прыйдзі і гаспадаруй у нас, і ачысьці нас ад усякага благоцьцяды збаў, дабротны, душы нашы.

МАЛІТВА КАЯНЬНЯ. Аслаб, астаў, даруй, Божа, правіны нашы,дабравольныя і недабравольныя, якія словам ці дзелам, сьведама ці нясьведама, днём ці ноччу, у думках ці ў намерах: усё нам даруй, Ты бо добры і чалавекалюбны.

АХВЯРАВАНЬНЕ БОГУ СЯБЕ І ЎСЯГО СВАЙГО Ахвярую Табе, Божа, сябе самога і ўсё, што маю – або лепш – усё, што ад Цябе маю, бо ўсё ёсьць Тваё, што маю і што мець магу. Ахвярую Табе ўсё, што сягоньня, заўтра і праз усё жыцьцё маё буду думаць, гаварыць, рабіць і цярпець. Ахвярую цела і душу маю з усімі іх уладамі і ўчынкамі на час і на вечнасьць. Хвала Айцу і Сыну і Духу Сьвятому: як было спрадвеку, цяпер і заўсёды і на векі вечныя. Амэн. +

МАЛІТВЫ ДА БАГАРОДЗІЦЫ

ДАСТОЙНА ЁСЬЦЬ сапраўды, бязустанна паважаць Цябе, Багародзіцу, заўсёды ласкі поўную, і найчысьцейшую Маці Бога нашага. Часьнейшую за хэрубімаў і без параўнаньня слаўнейшую за сэрафімаў, радзіўшую Бога Слова ненарушанаю, існую Багародзіцу, Цябе вялічаем.

К ТВАЁЙ ДАБРАЦЕ зьвяртаемся, Багародзіца Дзева, ня ўзгардзь нашаю малітваю ў журбах, але заслані нас ад бяды, адзіначыстая і багаслаўлёная.

МАЛІТВА СЬВЯТОГА БЕРНАРДА. Помні, о Найміласьцівейшая Дзева Марыя, што ад веку нячувана, каб той, хто да Тваё абароны ўцякае і Тваё помачы просіць, быў Табою апушчаны. Ідучы за гэтай надзеяй, о Дзева над Дзевы, Маці Божая, клічу Цябе ў маёй нядолі і як грэшнік шукаю Твайго зьлітаваньня. О, Маці Прадвечнага Слова, ня ўзгардзь маленьнем маім, але прыймі яго ласкава! Амэн.

Алесь ГАРУН



Хай ня льюцца дажджы цёмна-хмарныя
Над зьмярцьвелаю пашаю.
Хай пачнуцца гады хлебадарныя
Над зямелькаю нашаю.
Хай красуецца жытам, пшаніцаю,
Каласочкамі цяжкімі,
Хай узмацуецца Боскай правіцаю
Ї Усятворчымі ласкамі.
Хай асьвеціцца праўды навукаю
Ї братэрскаю згодаю,
Хай зьнявечыцца крыўда з прынукаю
За яе загародаю,
Хай узьлятаець хвала яе племяні
Упякнёнага цнотамі,
Хай шыбаець над скаламі з крэмяню,
Над арлінымі ўзьлётамі.





**а. Міхал САПЕЛЬ,**
**пробашч Сьвята-Троіцкае царквы (сьв. Роха) у Менску**

# ЁН ПРЫЙШОЎ, КАБ СУПАКОІЦЬ ДУШЫ

**Хвала ў вышынях Богу, а на зямлі супакой людзям добрай волі!**

**Гэтую песьню сьпявалі анёлы пры нараджэньні Хрыста. Бо менавіта дзеля хвалы Божае й дзеля супакою людзей прыходзіць Ён на зямлю. І сапраўды, кожны чалавек жадае сабе ды іншым спакою ў жыцьці, шчасьця. Але як мы разумеем гэтае шчасьце? Шмат хто бачыць яго ў простым дабрабыце, спрабуе пабудаваць яго бяз Бога. Або шукае духовага задавальненьня, але таксама па-за Богам. Ці магчымае гэткае шчасьце? Гісторыя чалавецтва, асабліва апошніх дзесяцігодзьдзяў, сьцьвярджае поўную бездапаможнасьць і бясплённасьць такіх пошукаў і непазьбежна ставіць чалавека перад яшчэ больш балючымі праблемамі. Дык у чым жа ёсьць сапраўднае шчасьце?**

**Ва ўбогай Бэтлеемскай стайні нараджаецца Дзіця. Так Хрыстос прыходзіць на зямлю. Бог зыходзіць да людзей. Дзеля людзей. Ці гэта не адказ Божы? Марыя і Язэп у цяжкім сваім падарожжы з Назарэту да Бэтлеему, калі не знаходзілася ім прытулку ні ў воднай хаце, чуліся шчасьлівымі. Гэтае дзівоснае пачуцьцё не пакідае іх і пазьней, пад час уцёкаў ад Ірада ў Ягіпет, і ў спакойным сямейным жыцьці ў Назарэце. Бог сам ціхай сваёй прысутнасьцю напаўняе іх шчасьцем. Але ж Бог прысутнічае нябачна і ля кожнага з нас, Ён пастаянна побач, і Ён любіць нас. Таму трэба адчыніць дзьверы свае для Яго, упусьціць Яго ў сваё жыцьцё. І сьвяты Аўгусьцін знайшоў свой адказ: "Не супакоіцца маё сэрца, пакуль ня знойдзе спакою ў Богу".**

Хрыстос прыходзіць у сьвет малым дзіцяткам. Каб нікога не напалохаць, нічога ні ў кога не адабраць, але зьмяніць сэрцы нашыя й душы. Зрабіць іх чулымі да Бога й да людзей, напоўніць іх штохвіліннай ахвярнай любоўю. Таму не пакідайма згадкі пра Бога толькі на сьвята ці наведваньне царквы. Але як Ён увесь час з намі, так і мы павінны пастаянна быць адкрытымі для Яго, адчуваць Ягоную прысутнасьць і ласку, жыць Богам. І тады Ён тут, на зямлі, дасьць адчуць супакой і шчасьце нашым душам.

# Далучанасьць да ісьціны

Тамаш Гэмэркэн (1380 – 1471) нарадзіўся ў мястэчку Кэмпэн пад Кёльнам, таму званы быў Кэмпійскі. Ад 1392 году да ўступленьня ў 1399 годзе ў закон сьв. Аўгусьціна, быў вучнем Гэрарда Гэротэ і Флярэнта Радэвінса. Гэта былі айцы духоўнага адраджэньня Галяндыі, якія пры канцы XУ стагодзьдзя заснавалі накірунаку аскезе "devotio moderne", а таксама з блаславенства папы Урбана УІ заклалі кангрэгацыю "братоў супольнага жыцьця". За энергічную дзейнасьць зайздросным клірам неаднойчы называныя былі ерэтыкамі.

Тамаш Кэмпійскі пакінуў гэты сьвет у чыне абата кляштару ў Агпэтэрбэргу. Аскет, філязоф і пісьменьнік, ён напісаў багата твораў. Найцікавейшы зь іх – кніга "Сьледам за Хрыстом" – набыў сусьветную вядомасьць і незьлічоную колькасьць чытачоў. Першае друкаванае выданьне кнігі ўбачыла сьвет Божы ў 1470 годзе ў Аўсбургу і да канца стагодзьдзя мела больш за 80 выданьняў.

Але сам Тамаш Кэмпійскі, як ніхто, далёкі ад чалавечае амбітнасьці, унутрана адмовіўся ад аўтарства: ён не схацеў (ці ня змог) падпісацца пад сваім боганатхнёным творам.

Доўгі час працягваліся спрэчкі пра сапраўднага стваральніка гэтага падручніка аскетызму й духоўнасьці. І, дзякуючы досьледам нямецкага навукоўца Карла Гіршэ, пэўна вядомае імя аўтара.

Пяць стагодзьдзяў гэтая кніга прываблівае розных людзей. Сьв. Ігнацы Лаёла ад часоў свайго вяртаньня да веры чытаў яе два разы штодзённа: адзін разьдзел раніцою, паводле парадку, наступны раз увечары, урыўкамі, адкрыўшы наўзгад. Сьв. Францішак Салезкі звычайна казаў, што гэтая кніга болей людзей асьвяціла, чым зьмяшчае ў сабе літараў. Чыталі яе таксама Пётра Карнэльлі, Лейбніц, Бэтховэн, Манзоні, Дастаеўскі, Бярдзяеў. Ампэр, цяжка хворы, на пытаньне аднаго сябра, ці не жадае пачуць якісь разьдзел са "Сьледам за Хрыстом", казаў: "Мо, што іншае, мой дарагі, бо "Сьледам..." ведаю напамяць".

Ня ўсе вядомыя ды невядомыя чытачы шукалі і шукаюць у кнізе аднолькава аднаго, ня ўсе аднолькава адно любяць, ня ўсе чытаюць яе з аднолькавымі аб ёй уражаньнямі. Для адных найбольшая каштоўнасьць – задавальненьне рэлігійнага пачуцьця й духоўнае навучэньне; іншыя, чытаючы яе ў духу цнатлівасьці і сілкуючыся ідэяй, здабываюць асалоду ад вонкавае яе формы, задавальняюць паэтычны настрой душы. Твор гэты, напісаны з Божае ласкі, насычаны сьвятой паэзіяй; кожная старонка дыхае лірычным узьнясеньнем веруючай душы; паўсюль у ім чутны велічны сьпеў аб Богу, аб вечнасьці, аб чалавечым лёсе. І ў кожным разьдзеле пульсуе, бадай, адзіная думка, якая заўсёды знойдзе сугучча ў сэрцах, выпрабаваных жыцьцём і шукаючых у вечнасьці разьвязаньня пытаньняў, што ня мелі адказу. Гэтая думка – думка аб існым і марным ў жыцьці. Ад таго, што чалавек абярэ ў гэтым сьвеце, залежыць, ці пажадае ён пайсьці ўсьлед за Хрыстом, пайсьці па "шляху супакою ды сапраўднае свабоды". Шлях гэты ня ёсьць цяжкі. Трэба адно ў душы – вучыць Тамаш Кэмпійскі – злучыць абыякавасьць да матэрыяльнага сьвету з пакорай і Любоўю. Гэтага прагне і Госпад, даючы кожнаму з нас найдасканальшыя сродкі.

У Вялікім княстве Літоўскім "Сьледам за Хрыстом" вядомая ўжо з канца XУ ст., а пераклад у сучасную беларускую мову з лаціны зрабіў доктар Станіслаў Грынкевіч у 1924 годзе. Пераклад (у Грынкевіча ён меў назву "Сьледам за Хрыстусам") выдаваўся двойчы: у 1934 годзе а. Адамам Станкевічам у Вільні і ў 1971 годзе а. Францішкам Чарняўскім у Амэрыцы.

Прапануем чытачам некалькі фрагмэнтаў з гэтага слаўнага твору. У публікацыі захаваная мова перакладу.

**Эдвард Тарлецкі**

*IMPRIMATUR Ab Ordinariatu Metropolitano + JOANNES, Eppus. aux. Vic'Gin Leopoli, die 14. VII. 1934*

Тамаш Кэмпійскі

# Сьледам за Хрыстом

## КНІЖКА ПЕРШАЯ

### Напамінаньні карысныя для духоўнага жыцьця

#### Разьдзел I

**Аб насьледаваньні Хрыста і пагардзе ўсіх марнасьцяў сьвету**



*то йдзе за Мной ня ходзе ў цемры (Ян 8, 12),* кажа Пан. Вось гэта словы Хрыста, якімі нас напамінае, каб мы насьледавалі Ягонае жыцьцё і абычай, калі хочам сапраўды сьвяціцца ды ўвольніцца ад сьлепаты сэрца.

Дык самай важнай працай нашай няхай будзе разважаньне жыцьця Ісуса Хрыста.

2. Навука Езуса Хрыста вышэй за ўсе навукі сьвятых; *і хто-б меў духа яе, знайшоў бы ў ёй укрыту манну (Ап. 2, 17).*

Аднак, бывае, што многія часта слухаюць Эвангеліі, але мала яе адчуваюць, бо ня маюць духа Хрыста.

І вось хто хоча поўна і дакладна сьцяміць словы Хрыста, трэба, каб усё жыцьцё імкнуўся яго насьледаваць.

3. Якая карысьць табе з глыбокіх разважаньняў аб Тройцы, калі з нястачы пакоры ты нямілы Тройцы?

Сапраўды, высокая гутарка ня зробіць чалавека сьвятым і справядлівым, а толькі цнотнае жыцьцё робіць яго мілым Богу.

Лепш хацеў бы я адчуваць жаль, чымся назваць яго словамі.

Калі б ты імеў на памяць усю Біблію ды навукі ўсіх філёзафаў – на што табе гэта прыдалося-б, калі-б ты ня меў любові і ласкі Бога?

*Марнасьць з марнасьцяў і ўсё марнасьць (Эккл. 1, 2),* апроч аднаго Бога і службы Яму самому.

Вось дзе найвялікшая мудрасьць – праз пагарду сьвету імкнуцца да каралеўства нябеснага.

4. Дык марнасьць – шукаць мінаючых багацьцяў і на іх спадзявацца.

Марнасьць – шукаць сабе славы і падымацца на высокія становішчы.

Марнасьць – ісьці за жаданьнем цела і таго хацець, скуль павінна некаліс выйсьці цяжкая пара.

Марнасьць – хацець доўга жыць, аб жыцьці добрым мала старацца.

Марнасьць – зважаць на сёняшняе толькі жыцьцё і не глядзеці ў будучыню.

Марнасьць – любіць тое, што так хутка мінае і туды не сьпяшацца, дзе вечная радасьць трывае.

5. Памятай часта на гэтае прыслоўе: *не накорміцца вока тым, што бачыць, ані вуха не напоўніцца тым, што чуе (Эккл. 1.8).*

Дык старайся адцягаваць сваё сэрца ад міласьці рэчаў відомых, а зварочвацца да нявідомых.

Бо тыя, што ідуць за сваей пажадлівасьцяй, плямяць сваё сумленьне і губяць ласку Бога.

#### Разьдзел II

**Аб пакорным зважаньні на сябе самога**



ожны чалавек з натуры імкнецца да веды, што-ж аднак мудрасьць бяз боязьні Бога?

Лепшы, сапраўды, просты вясковец, які служыць Богу, чымся горды філёэаф, які абняхаяўшы сябе самога, разглядае рух нябесных зорак.

Хто сябе добра знае, той надта маленькі ў сваіх вачох і ня цешыцца зь людзкое хвальбы.

Калі-б я ведаў усё, што ёсьць на сьвеце, а ня меў бы любові, што-ж мне гэта памагло-б у Бога, які асудзіць мяне з чынаў маіх?

2. Стрымлівай надмернае жаданьне ведаў, бо вялікае там хаваецца скаламучаньне і зманнасьць.

Вучоныя ахвотна любяць, каб іх бачылі і мудрымі называлі.

Шмат чаго ёсьць, што ведаць – мала ці зусім не карысна для душы.

І надта неразумны той, хто ганяецца за нечым іншым, замест затым, што карысна для яго збаўленьня.

Шмат слоў не накорміць душы, а толькі добрае жыцьцё супакойвае розум, а чыстае сумленьне дае веру ў Бога.

Чым больш і лепш ведаеш, тым цяжэй будзеш асуджаны, калі тым больш багабойна жыць ня будзеш.

Дык ня пышніся ніякім мастацтвам, ані ведай, але хутчэй бойся за дадзеную табе ўмеласьць.

Калі табе здаецца, што многа ведаеш і даволі добра разумеш, знай тады, што шмат больш таго, чаго ты ня ведаеш.

*Ня думай высока аб сабе (Рым. 11, 20),* а лепш прызнайся да свайго няведаньня. Чаму-ж ты хочаш вывышацца над іншых, калі ёсьць шмат больш вучоных за цябе і лепш знаючых законы Бога?

Калі хочаш нечага навучыцца і ўмець карысна – прывыкай, каб аб табе нічога ня ведалі і лічылі цябе за нішто.

3. Вось найвышэйшая і найкарысьнейшая навука: праўдзівае спазнаньне сябе і пагарда сабой.

Аб сабе ня думаць нічога добрага, аб іншых – заўсёды добра і высока.

Афармленьне зробленае па матывах ініцыялаў з "Майнцскай Псалтыры", выдадзенай Йоханам Фустам і Пэтэрам Шоффэрам у 1457 годзе.

Калі-б ты бачыў, што нехта грашыць ды нават і цяжка, ня думай, што ты аднак лепшы, таму, што ня ведаеш, ці доўга вытрываеш у добрым.

Усе мы слабыя, але сябе ты ўважай за слабейшага.

## КНІЖКА ТРЭЦЯЯ

### Пра суцяшэньне душы

#### Разьдзел XXIII



**Аб чатырох рэчах, якія даюць супакой**

Цяпер навучу цябе, сыне, шляху супакою ды сапраўднае свабоды.

Зрабі, Пане, што кажаш, а я ахвотна слухаю Цябе.

Вучыся, сыне, чужую волю спаўняць хутчэй, чымся сваю.

Выбірай заўсёды мець менш, чымся больш.

Глядзі заўсёды апошняга месца, ды спакарайся ўсім.

Прасі заўсёды ды маліся, каб воля Бога цалікам была зьдзейсьнена.

Такі вось чалавек на шляху супакою ды супачынку.

2. Пане, гутарка Твая гэная кароткая шмат мае ў сабе дасканаласьці.

Мала ў ёй слоў, але шмат думкі і плод багаты.

І калі-б я верна яе споўніў, ня так хутка трывога і неспакой мяне агарнулі-б.

Бо калі толькі ўбачу сябе неспакойным ды прыдушаным цяжарам – угледжу заўсёды, што прычына таго ў адхіленьні ад Тваёй навукі.

Аднак Ты, што ўсё здолееш ды спагадаеш поступу душы, павяліч сваю ласку, каб патрапіў я зьдзейсьніць словы Твае ды дайсьці да збаўленьня свайго.

**Малітва ад благіх думак**

3. *Госпадзе і Божа мой, не адыходзь ад мяне; Божа мой, сьпяшы мне на помач. (Пс. 70, 12), бо* зьявіліся ў мяне думкі розныя і споляхі вялікія, якія турбуюць надта душу маю.

Як выйсьці зь іх бяз шкоды?

Як іх перамагчы?

*Як пайду прад Табою і спакару тых, якія пышняцца на гэтым сьвеце. Адчыню дзьверы вязьніцы і пакажу табе схаваныя таёмнасьці (Із. 45, 2-3).*

Зрабі, Пане, паводле слоў Тваіх і няхай уцякаюць перад воблікам Тваім усе благія думкі.

Усенькая надзея і адзіная пацеха мая – прытуліцца да Цябе пры ўсіх турботах, на Цябе спадзявацца, клікаць Цябе з глыбіні сэрца свайго ды ждаць цярпліва пацехі Твае.

**Малітва дзеля асьвячэньня розуму**

4. Асьвяці мяне, добры Ісусе, яснатою сьвятла ўнутранага і выжань з сэрца майго ўсянютанькую цемру.

Спыні шматлікія расьцярушаньні ды адгані спакусы, якія насядаюць на мяне.

Мужна змагайся за мяне і зваюй ліхія бестыі, якія ёсьць пажаданьні, поўныя маны, каб *настаў супакой цераз сілу Тваю (Пс. 121, 7),* ды каб хвала твая зьвінела ў будыніне сьвятой – у чыстым сумленьні.

Загадай ветрам і бурам, скажы мору: *супакойся, а віхрам – ня вейце і пачнецца цішыня вялікая (Мр. 4, 39).*

5. *Пашлі сьвятло Тваё і Праўду (Пс. 42, 3), каб сьвяцілі над зямлёю, бо сам я зямля ялёвая і няплодная (Гэн. 1, 2,*, пакуль не дасі сьвятла свайго.

Пашлі ласку з вышыні Тваёй, а расою нябеснай пакрапі сэрца маё, дай вады пабожнасьці, каб зямліцу пакрапіць, каб быў плод найвялікшы і найбагацейшы.

Падымі душу, якая прыціснута вагромністым цяжарам грахоў ды зьвярні мяне да жаданьня ўсяго нябеснага, каб каштуючы салодкасьці шчасьця нябеснага, нельга і думаць было аб зямным.

Вазьмі мяне ды адцягні ад усіх мінаючых пацехаў, што ідуць ад твораў на зямлі, бо-ж ніводная рэч ня здолее здаволіць цалікам імкненьня майго і пацешыць мяне.

Злучы мяне з Сабою стульна любоўю, бо Цябе, Цябе аднаго хапае таму, хто любіць Цябе, а ўсенькі сьвет без Цябе – нічогасьць адна.

#### Разьдзел XXIУ



**Трэба сьцерагчыся цікавага падглядданьня, як жывуць іншыя**

Ня будзь, сыне, цікавы ды не клапаціся дарэмна. Што табе за дзела да таго ці іншага? *Ты Мяне насьледуй (Ян 21, 22).*

Бо што-ж табе з таго, што нехта такі ці іншы, або так ці інакш робіць ці гаворыць?

Ты ня будзеш адказываць за іншых, а здасі справаздачу за сябе... Чаго-ж тады лезьці ў чужыя справы?

Я вось усё ведаю і бачу, што толькі пад сонцам робіцца; і ведаю, што з кожным робіцца, што думае, чаго хоча і ў якім кірунку імкнуцца намеры ягоныя.

Мне такім чынам усё парушыць трэба; ты-ж пакінь сябе ў добрым супакоі, а неспакойны няхай робіць, што толькі захоча.

Супраць яго паўстане ўсё, што толькі ён зрабіў ці сказаў, а абмануць Мяне ніхто ня здолее.

2. Не ганяйся за славай імя, ці за тым, каб мець шмат прыяцеляў, ці зноў каб людзі цябе надта любілі. Усё гэта дужа чалавека расьцярушвае ды наводзіць цень вялікую на сэрца.

Ахвотна казаў бы Я табе словы свае ды выявіў бы Таёмнасьці, калі-б зважаў ты пільна на адведваньні мае і дзьверы сэрца свайго адчыняў перада Мною.

Будзь разважным, чуйна трывай у малітвах ды спакарайся ўва ўсім.

#### Разьдзел XXX



**Трэба прасіць помачы ў Бога і чакаць зь вераю павароту ласкі**

Сыне, *Я Бог, што падтрымлівае ў дні турботаў (Нав. 1, 7).*

Прыходзь да Мяне, калі табе будзе нядобра.

Найбольш аддаляе нябесную пацеху тое, што надта позна зварочваешся да малітвы. Бо пярвей, чым зачнеш прасіць Мяне, шукаеш рознае пацехі і палёгкі ў рэчах вонкавых.

Дзеля таго ўсё гэта мала табе памагае, пакуль не пераканаешся, што *Я ёсьць той, каторы выбаўляе маючых ува Мне надзею (Пс.*

*16, 7)* і што апроч Мяне няма ані належнай помачы, ані карыснай рады, ані трывалых лекаў.

Але пасьля буры, прыйшоўшы да прытомнасьці, узмагай свае сілы ў яснасьці майго міласэрдзя, бо блізка Я знаходжуся, каб усё ізноў направіць ня толькі так, як было, але яшчэ лепш і шчадрэй.

2. Ці-ж для Мяне ёсьць што труднае, або ці-ж Я такі, як той, што прыракае і не спаўняе?

Дзе-ж вера твая? Будзь сталым і вытрывалым.

Будзь цярплівым і мужным; пацеха прыйдзе ў сваім часе.

*Чакай Мяне, чакай: прыйду і аздараўлю цябе (Мат. 8, 7).*

Тое, што цябе так муча, ёсьць толькі спакусай, а тое, што цябе так трывожа, ёсьць толькі пустым страхам.

Нашто маеш турбавацца тым, што трапіцца з табою ў будучыне? Хіба на тое, каб павялічваць сумаваньні свае за сумаваньнямі. *На кожны дзень хопіць бяды свае (Мат 6, 34).*

Марна ды бескарысна турбавацца ці весяліцца з таго, што маніцца трапіцца ў будучыне, а магчыма надта, што і ніколі не трапіцца.

3. Такімі ўявамі жыць – прыкмета гэта людзкой слабасьці, а такая лёгкасьць на падшэпты ворага сьведчыць аб нядужасьці духа.

Бо-ж не глядзіць вораг, ці праўдзівымі ці фальшывымі рэчамі абмане цябе: ці каханьнем рэчаў дачасных, ці сполахам будучыні паваліць чалавека.

*Няхай ня турбуецца сэрца тваё, ані палохаецца (Ян 14, 1).*

Вер Мне ды на міласэрнасьць маю спадзявайся.

Калі ты думаеш, што Я надта далёка, – Я часта зусім блізка цябе.

Калі ты думаеш, што ўсё ўжо прапала – тады прыходзіць хвіліна большае заслугі ды нагароды.

Ня ўсё яшчэ прапала, калі абставіны складаюцца неяк насупроць цябе.

Ня трэба судзіць паводле таго, што цяпер табе здаецца ды палохацца кожнаю бядою гэтак, быццам уся надзея палёгкі прапала.

4. Ня думай, што пакінуў Я цябе зусім, калі пашлю табе якую турботу, або забяру жаданую пацеху – бо толькі гэткі шлях вядзе да неба.

І бяссумліву лепш табе і ўсім слугам маім, калі выпрабую вас супраціўнасьцямі, чымся калі-б усё было паводле думак вашых.

Я ведаю таёмныя думкі твае і ведаю, што надта карысна дзеля збаўленьня твайго, каб быў ты часта бяз унутранай радасьці, а гэта таму, каб незашмат ты пышыўся поступам сваім у дабры, ды каб сам ты сябе ня лічыў такім, якім ты ня ёсьць.

Што Я даў – магу адабраць і йзноў зьвярнуць, калі гэтак зажадаю.

5. Калі што даю – маю яго, калі адбіраю – твайго не бяру: бо-ж маё ўсё дабро і ўсякі дар дасканалы.

Калі пашлю на цябе бяду, або нейкую супраціўнасьць – не наракай ды не сумуй у сэрцы сваім: Я-ж хутка магу даць палёгку табе, а ўсякае сумаваньне ў вясельлі перайнакшыцца.

І сапраўды, справядлівы Я і годны хвалы, калі гэтак раблю.

6. Калі сапраўды ты разумны, ды ўсё разьмяркоўваеш добра, ніколі табе ня трэба сумаваць маладушна ў супраціўнасьцях, а хутчэй цешыцца ды дзякаваць за іх.

*Ды на'т яшчэ няхай будзе табе вясельле, што пасылаю на цябе болі, не мінаю цябе (Гіоб. 6, 10).*

*Як Айцец узьлюбіў Мяне, гэтак і Я вас узьлюбіў (Ян 15, 9),* сказаў Я улюблёным вучням сваім, якіх сапраўды паслаў Я не на радасьці дачасныя, але на змаганьне вялікае; не на гонары, але на зьдзек і пагарду, не на гультайства, але на безупынную працу, не на адпачынак, а на тое, каб прыносілі плод вялікі ў цярплівасьці. Памятай, мой сыне, на гэтыя словы!



## Разьдзел XLVII

### Усё хоць бы найтруднейшае трэба цярпець дзеля вечнага жыцьця

Сыне, ня дайся зламіць сябе трудамі, якія пачаў ты дзеля Мяне, і не ўпадай пад цяжарам турботаў, але ў кожным здарэньні няхай цябе пакрапляе і пацяшае прырачэньне Маё.

Маю Я з чаго даць табе нагароду вялікую за ўсё. Ня доўга працаваць тут будзеш і не заўсёды будуць мучыць цябе цярпеньні. Пачакай крышку і ўбачыш, як хутка зьявіцца канец усіх бедаў.

Прыйдзе хвіліна, калі спыніцца ўсякае змаганьне і турботы. Усё тое маленькае і кароценькае, што мінае з часам.

2. Рабі што робіш: шчыра працуй ў віньніцы маёй, а Я буду нагародай тваёй.

Пішы, чытай, сьпявай, енч, маўчы, маліся, мужна змагайся з супраціўнасьцямі: жыцьцё вечнае варта ўсіх гэткіх ды вышэйшых змаганьняў.

Прыйдзе супакой у тую хвіліну, якая Госпаду вядомая і тады ўжо ня будзе ані дня, ані ночы, а будзе сьвятло заўсёднае, яснасць бязьмежная, бясьпечны супакой і адпачынак.

Ня будзеш казаць тады: *хто мяне высвабадзіць ад цела гэтае сьмерці (Рым. 7, 24)? Ды ня будзеш галасіць: гора мне, што прабываньне маё гэтак зацягваецца (Пс. 119, 5).* Бо сьмерць будзе пераможана і прыйдзе вечнае жыцьцё, прападуць тады ўсялякія клопаты і будзе радасьць багаслаўлёная сярод хвалы ды шчасьця.

3. О, калі-б ты ўбачыў кароны вечныя сьвятых у небе і ўбачыў, якой хвалай зіхацяць тыя, якімі сьвет пагарджаў ды аб якіх думаў, што яны і жыцьця ня вартыя – дык чым хутчэй спакарыўся, упаў-бы на зямлю і жадаў-бы лепш усім быць падлеглым, чымся верхаводзіць хоць-бы нават над адным.

Не хацеў-бы ты дзён шчасьлівых на гэтым сьвеце, але весяліўся-б з таго, што цярпім дзеля Бога, і за вялікі скарб уважаў-бы пагарду ад людзей.

4. О, калі-б сьцяміў ты гэтыя праўды, ды калі-б яны запалі ў самую глыбіну сэрца, як жа тады пасьмеў-бы ты хоць адзін раз наракаць на штосьці?

Ці-ж дзеля вечнага жыцьця не належа сьцярпець усенькія турботы?

Гэта-ж не малая справа: страціць ці здабыць валадарства Божае. Дык падымі воблік свой у неба. Вось тутака Я з усімі маімі сьвятымі, якія цярпелі вялікую барацьбу на гэтым сьвеце, а цяперака цешацца і весяляцца, цяперака бясьпечныя, цяперака адпачываюць і вечна будуць жыць са Мною ў валадарстве Айца Майго.

*...прадай, што маеш,...,*
*каб Маім сьледам пайсьці.*
*(Мацьв. 19, 21)*

*Дзе скарб твой – там і сэрца тваё.*
*(Мацьв. 6, 21)*

# КАТЭХІЗІС АЙЦА ПЁТРЫ

## СЬМЕРЦЬ

Прысьвячэньне ў містэрыю (тайніцу) ёсьць сымбалічным уваходам у новае жыцьцё. Але перш чым яго зьдзейсьніць, абраны прымае ўмоўную сьмерць. Бо "што ты сееш, не ажыве, калі не памрэ" (Кар. 15, 36). Вада – пара – паветра – вагонь. Кожны якасна новы стан рэчыва нясе ў сабе сьмерць ранейшых ягоных станаў. Вось дзе ўжо сапраўды нішто так не нагадвае пра жыцьцё, як сьмерць. Гэта ж датычыцца й чалавека.

Для чалавека сьмерць ёсьць тым самым, чым ёсьць для вады вагонь. Як вада, што, выпарваючыся, вызваляе зь сябе танчэйшыя рэчы, так і фізычнае цела чалавека пад узьдзеяньнем спапяляючае яго на працягу зямнога жыцьця сьмерці ў выніку вызваляе зь сябе целы танчэйшыя – душу і дух.

Вагонь у сабе нясе сьмерць для вады. Хутчэй, не для самое вады, але для тога стану рэчыва, які мы завем вадою. Бо метафізычна вагонь ёсьць замкнёным у вадзе – інакш яна б ня мела ўласьцівасьці награвацца ды ў сваім якасна новым стане ўзьнімацца да ўзроўню таго ж вагню. Такім чынам, вагонь – гэта ня столькі сьмерць вады, колькі ейнае імкненьне перайсьці з аднога, грубейшага, стану – у іншасны, танчэйшы.

Тое ж самае адбываецца ў чалавеку. Нарадзіўшыся з матчынага ўлоньня, чалавечая істота робіць першы крок насустрач сьмерці. Аднак "ці на тое чалавек нараджаецца, каб памерці?!" – усклікае Ёв. Сьмерць – гэта вагонь жыцьця, гэта імкненьне чалавека, хай нават неўсьвядомленае, перайсьці са стану матэрыяльнага ў стан духоўны. Вада, "паміраючы", узыходзіць да вагню; зерне, "паміраючы"; узрастае коласам. Усё, паміраючы, не прападае бяз знаку, але пераходзіць зь цяперашняга стану быцьця ў наступны, – як правіла, вышэйшы. Такі закон жыцьця, ягонага руху – узыходу.

Чаму ж мы, аддаючы перавагу ўзыходнаму руху тых самых зярнятаў альбо вады, павінны адлучаць чалавека ад гэтага закону? Бо ўвесь сьвет, што атачае чалавека, зьмяшчаецца ў чалавеку, каб чалавек, назіраючы за ім, здолеў зразумець і сваю ўласную ролю ў гэтым сьвеце і дзеля гэтага сьвету, і ўласнае сваё прызнаньне як істоты перш за ўсё духоўнае.

Таму першаю тайніцаю, якою пачынаецца духоўнае адраджэньне чалавека ёсьць тайніца сьмерці – хрост. Бо "усе мы, якія ахрысьціліся ў Хрыста Ісуса, у сьмерць Яго ахрысьціліся... Бо, калі мы злучаны зь Ім падабенствам сьмерці Яго, дык павінны быць злучаны й падабенствам уваскрошаньня" (Рым. 6, 3-5).

## ЗМАГАНЬНЕ ЗА ЧАЛАВЕКА. ЛЮДЗКІ ВЫБАР ШЛЯХУ

У Новым Запавеце неаднаразова падкрэсьліваецца, што служэньне чалавека можа йсьці толькі двума шляхамі: альбо Богу, альбо д'яблу. Трэцяга не дадзена. Аб трэцім сказана: "...ты ані сьцюдзёны, ані гарачы; о, каб жа ты быў сьцюдзёны, або гарачы! Дык вось, за тым, што ты цёплы, а не сьцюдзёны й не гарачы, Я выкіну цябе із вуснаў Маіх" (Адкр. 3,15-16), адкуль ясна, што трэці шлях – нейтральны – хоць існуе, але зусім не прымаецца пад увагу.

"Калі ж прыйдзе Сын Чалавечы ў славе Сваёй, і ўсе сьвятые Ангелы зь Ім, тады сядзе на пасадзе славы Свае. І зьбяруцца перад Ім усе народы; і аддзеліць адных ад другіх, як пастыр аддзяляе авец ад казлоў; і паставіць авец праваруч, а казлоў леваруч" (Мв. 25, 31-33). Значыць, альбо праваруч Хрыста, альбо леваруч – сярэдзіны няма.

*Працяг. Пачатак у № 2, 1990г.*

Кожнае слова, кожны ўчынак чалавека служаць альбо на хвалу Божую, альбо на ўслаўленьне нячыстага. Прычым незалежна ад ступені ўсьвядомленасьці ўчынку, бо нават "за ўсякае пустое слова, якое скажуць людзі, дадуць яны адказ у дзень суду" (Мв. 12, 36).

"Ніхто ня можа служыць двом панам; бо ці першага будзе ненавідзець, а другога любіць, ці першаму пачне прыяць, а аб другім нядбаць. Ня можаце служыць Богу й мамоне" (Мв. 6, 24). Гэтаму закону падуладны ня толькі кожны асобны чалавек, але кожнае згуртаваньне людзей, грамадзкае, палітычнае, рэлігійнае, ці іншае. У гэтым сэнсе можна сказаць, што няма ніводнае палітычнае ці грамадзкае арганізацыі, якая не вызнавала б тае ці другое рэлігіі.

Такім чынам, усе рэлігіі сусьвету можна падзяліць на дзьве процілеглыя рэлігійныя плыні: рэлігія, што вызнае праўдзівага Бога, і супярэчная ёй рэлігія шатанізму.

Рэлігія як такая складаецца з трох вызначальных для яе элементаў: містычнага, магічнага й рацыянальнага. Чалавек можа прыйсьці да рэлігійнае сьвядомасьці ня толькі праз аб'яўленьне, а й чыста рацыяналістычна, шляхам пазнаньня бачнага сьвету, што яго атачае. Гэтае пазнаньне прыводзе чалавека да веры ў існаваньне нейкае Сілы й Розуму, якімі трымаецца й кіруецца Сьветабудова, да веры ў духоўны сьвет – вынікова, яно прыводзе яго да містычнага ўспрыманьня быцьця. Тады ў чалавека ўзьнікае патрэба сумоўя, кантакту з тою Духоўнаю Істотаю, што адкрылася яму праз аб'яўленьне ці праз пазнаньне, і служэньня спасьцігнутаму ў Ёй праўдзіваму свайму Госпаду і Уладыку. Адсюль – абрадавы бок рэлігіі з уласьцівою яму магічнасьцю дзеяньня.

У рэлігіі тры гэтыя элементы – містычны, магічны й рацыянальны – гарманічна спалучаюцца й трываюць у непарушнай еднасьці. Занядбаньне аднаго зь іх вядзе да скажэньня й выраджэньня рэлігіі ў бок прымітыўных вядзьмарства, матэрыялізму альбо такіх містычных плыняў як аккультызм, спірытызм і да т.п. Падобныя скрыўленьні ёсьць небясьпечнымі ня так для шатанізму, як для Хрысьціянства, бо шатан сам сабою не ствараe нічога, але імкнецца папсаваць створанае Богам. Таму ўсялякі адыход ад ісьціны й Хрысьціянскага адзінства ёсьць ягоным дасягненьнем. Пачасту гэтыя скажэньні вынікаюць нібыта з добрых намераў ачышчэньня ды абнаўленьня. У рэлігійнай гісторыі чалавецтва знойдзена даволі тому прыкладаў.

Індульгенцыя – той самы талісман, якому рымскім духавенствам надавалася магічная ўлада дазваляць грахі. Так Рыма-Каталіцтва націскам на магічны бок рэлігіі правакуе напады лютаранаў менавіта на гэты бок – і ў выніку Лютаранства падае ў другую скрайнасьць ды пракладае шлях рацыяналізму, чым наносіць удар ня толькі Каталіцтву, але Хрысьціянству ўвогуле. Калі Лютаранства – гэта самакрытыка Хрысьціянскае Царквы, дык яно выклікала да жыцьця сілы зласьлівага крытыканства, якія чакалі свайго часу. Націск на рацыяналізм прывёў да ганарыстае веры ў моц чалавечага розуму, якому дзеля пазнаньня сьвету нібыта й не патрэбны Бог. Ня дзіўна, што матэрыялізм у сваёй найяскравай марксісцкай праяве разьвіваецца менавіта ў пратэстанцкіх краінах.

Спаборніцтва шатана з Творцам пачалося яшчэ да стварэньня чалавека альбо адразу па стварэньні. Істотна тое, што чалавек зь першых



*Малюнак Андруся Пазьняка*

дзён свайго існаваньня робіцца аб'ектам гэтага спаборніцтва, таму што барацьба шатана супраць Бога ёсьць найперш барацьбою за душу чалавека. Уся гісторыя чалавецтва ёсьць гісторыяй гэтага змаганьня, у якім ня толькі кожны чалавек, але цэлыя плямёны й народы ўсім сваім жыцьцём падтрымлівалі той ці другі бок.

Свайго апагею гэтая барацьба дасягае з прышэсьцем на зямлю Бога ўцелясьнёнага ды станаўленьнем Хрыстовае Царквы. Спачатку, на першых стадыях старазапаветнага разьвіцьця чалавецтва, гэтаму спаборніцтву яшчэ не надаецца характара гэткае катэгарычнасьці, як у новазапаветныя часы. Па грэхападзеньні чалавека шатан асабліва актыўна пачынае дзейнічаць тады, "...як людзі пачалі мнажыцца на зямлі, і дочкі нарадзіліся ў іх; і пабачылі сынове Божыя дачок людзкіх, што яны харошыя, і ўзялі іх сабе за жонак, з усіх, каторых яны абралі" (Быць. 6, 1-2). Агульны сэнс гэтага біблійнага апавяду, а таксама далейшая гісторыя чалавецтва паказваюць, што "сынове Божыя" былі не сынамі Енаха, але анёламі, якія палі з горнае (вышыннае) існасьці ў грахоўную існасьць пачуцьцёвага сьвету. Менавіта праз гэтую ненатуральную сувязь памнажалася "ліха людзкое на зямлі", беззаконьне сягнула тога, што "зажурыўся Госпад, што стварыў чалавека на зямлі, і засмуціўся ў сэрцы Сваім" (Быць. 6, 5-6).

Характар гэтых беззаконьняў прытоены ў Бібліі, але мы можам здагадвацца пра іх паводле тога нямногага, што нам адкрыта. Перш за ўсё, гэта была перавага цялеснага разьвіцьця над духоўным, верагодна, росквіт матэрыяльнае культуры побач усеагульнае разбэшчанасьці нораваў, дзеля чаго й сказана Госпадам: "Ня будзе Дух Мой трываць у людзіне вечна ў ваблудах ейных; бо яна цела; і будуць дні ейныя сто дваццаць год" (Быць. 6, 3). Калі цяпер мы можам назіраць, якіх вяршыняў пазнаньня здольны дасягнуць чалавек за свае 70-80 гадоў, дык наколькі ж большага ён здатны быў дасягнуць за жыцьцё, што працягвалася 700-900 гадоў! Ды ўявіма, што гэтыя гады былі зьвернуты на засваеньне й разьвіцьцё ведаў, якія атрымаў чалавек ад паўшых духаў...

Неабходныя перадумовы для нармальнага разьвіцьця пазнаньня ў чалавека былі ад пачатку. "І быў Авель пастух авец, а Каін рабіў зямлю" (Быць. 4, 2); "І пазнаў Каін жонку сваю, і яна зацяжарыла й нарадзіла Енаха. І збудаваў ён места; і назваў места імем сына свайго: Енах" (Быць. 4, 17); "...ён (Ювал) быў айцец усіх граючых на гусьлях ды жалейках" (Быць. 4, 21); "Цыла таксама нарадзіла Тувалкаіна, які быў каваль усялякае снадзі зь медзі й жалеза" (Быць. 4, 22). Як бачым, у чалавека былі земляробства й жывёлагадоўля, будаўніцтва ды апрацоўка металаў, мастацтва. Пры гэтым чалавечая маральнасьць сягала такога ўзроўню, што ўсялякі ўчынак бліжняга ўспрымаўся як уласны. Так, напрыклад, "сказаў Ламех жонкам сваім: "Ада й Цыла! слухайце голасу майго, жонкі Ламехавы! прыслухайцеся да мовы мае; бо я чалавека забіў сабе на рану і дзіця сабе на шрам. Калі сем разоў памсьціцца за Каіна, дык за Ламеха семдзесят і сем разоў" (Быць. 4, 23-24).

Трэба думаць, што калі б Ламех сапраўды кагосьці забіў, гэта было б адлюстравана ў Бібліі, але ў ёй пра гэта не сказана ані слова. Тут Ламех прымае на сябе грэх Каіна й папярэджвае людзтва аб той адказнасьці, якую нясе яно за грэх забойства чалавека чалавекам. Ён кажа аб тым, што ў будучыні чалавецтва пажне тое, што пасее яно сёньня.

Папярэдзе апавяду пра сыходжаньне паўшых духаў да чалавечых дачок, Біблія зьвяртае нашую ўвагу на тое, што дагэтуль людзі "заклікалі Імя Госпаднае".

Тыя веды, якія прынесьлі чалавеку паўшыя духі, адварочвалі яго ад Духу Божага. Што абяцае чалавеку шатан, спакушаючы яго ў выраю? Ён кажа: "будзеце як Багове". Значыцца, паўшымі духамі разьвівалася ў чалавеку менавіта тое, што вяло яго да гордасьці, самаабагаўленьня, уседазволенасьці. То была цывілізацыя волатаў, цывілізацыя багоў, пра гібель якое ў водах патопу да гэтых дзён шкадуюць шатаністы. І яны рыхтуюць нам на будучае цывілізацыю, падобную да той, што загінула ад гневу Боскага. "Няма нічога новага пад сонцам" (Каз. 1, 9).

Па выгнаньні з выраю чалавек трапляе ў сьвет ніжэйшы, матэрыяльны. "Царства Маё не ад гэтага сьвету", – кажа Госпад (Ян 18, 36). Царства шатана ў гэтым сьвеце. Вынікам грэхападзеньня зьявілася як бы раздваеньне чалавечае асобы, ягоная адначасная прыналежнасьць да сьветаў фізычнага й духоўнага – і напачатку ў чалавеку спалучаецца служэньне абаім. Чалавек стаіць яшчэ на дзіцячай ступені разьвіцьця й ня высьпеў дзеля сьвядомага выбару. Гэты выбар ён павінен зьдзейсьніць самастойна, без усялякага прымусу звонку. Таму процістаўленьне паняцьцяў "Госпад" і "шатан" на гэтай стадыі яшчэ замглёнае, невыразнае – так, як, напрыклад, у выпадку з прарокам Валаамам.

Бог, што зьявіўся ноччу ў сьне Валааму й загадаў яму йсьці да Валака, ня ёсьць праўдзівым Богам, але ёсьць ліхім. Бог праўдзівы ўдзень паслаў Анёла заступіць дарогу Валааму. Ня можа быць супярэчнасьці ў Богу. Але як сказана пра зьяўленьне Валааму ўначы нячыстага? "І прыйшоў Бог да Валаама ўночы" (Лікі 20, 22).

Аднак дваістасьць гэтая доўга цягнуцца не магла. Чалавек набліжаецца да выбару. У кнізе Ёва "бог ліхі" хоць і знаходзіцца яшчэ між сынамі Божымі, але названы сваім сапраўдным імем – шатан (Ёв 1, 6). І дазваляе Госпад шатану спакусіць Ёва дзеля палягчэньня чалавеку выбару, дзеля спасьціжэньня чалавекам свае праўдзівае сутнасьці – у чым яна: ці ў хісткім сьвеце матэрыяльным, што, нібы дым, растане ў нязнаную часіну, ці ў Богу – вытоку жыцьця й вечнасьці, Каторы не пакідае чалавека ні ў якіх ягоных нягодах.

З выкупляльнаю ахвяраю Хрыста выбар гэты мусіць быць зроблены канчаткова. Сам Бог сыходзе на зямлю, каб узьвесьці чалавека на Нябёсы. На зямлю ж маланкаю абрынаецца й шатан, каб адгэтуль адкрыта ўсёю сваёю моцаю перашкаджаць выкупляльнай місіі Хрыста. І, калі сапраўдная прычына бедстваў габрайскага народу была ў адыходзе ад запаветаў Божых, але раней гэтыя бедствы праяўляліся ў формах палітычнага змаганьня Ізраіля з варожымі яму дзяржавамі, дык ганеньні на хрысьціянаў носяць ужо выразны характар менавіта духоўнага змаганьня шатана супраць Бога. Аб'яўляецца праўда пра Бога. Хрыстос адкрывае нам, што Бог ёсьць Любоў. Аб'яўляецца праўда пра шатана й сэнс ягонага супрацьстаяньня Богу.

*Працяг будзе.*





Kazimer Svajak

# З НАРОДАМ ДЛЯ БОГА

*Дарагі Чытачу! Ужо ты меў магчымасьць пазнаёміцца зь вершамі беларускага паэта, публіцыста і асьветніка Казіміра Сваяка, постаць якога ў гісторыі нашае культуры вылучаецца сваім ахвярным і мэтанакіраваным служэньнем справе нацыянальнага адраджэньня. Сферамі гэтага высокага духоўнага служэньня былі Рэлігія і Літаратура – абедзьве не аддзеленыя адна ад адной, але пяднаныя ідэяй Бога і Бацькаўшчыны.*

*Канстанцін Стаповіч (такое сапраўднае імя Казіміра Сваяка) рана адчуў сваё сьвятарскае пакліканьне і атрымаў адпаведную адукацыю ў Віленскай духоўнай семінарыі. Зь вясны 1915 года ён ужо адпраўляў набажэнствы і адным зь першых сярод ксяндзоў пачаў прамаўляць у каталіцкіх сьвятынях па-беларуску, што зьбірала на яго казаньні таксама і праваслаўных. За гэта К.Сваяк цярпеў шмат пакутаў і перасьледаваньняў з боку касьцельных уладаў, але тым ня менш сьвядома і самааддана працягваў распачатую справу, змагаючыся ня толькі з маральнымі і ідэалагічнымі перашкодамі, але і зь невылечнаю хваробай – сухотамі, што заціскалі яго ўсё мацней і ўрэшце загасілі сьвечачку ягонага жыцьця на трыццаць шостым годзе.*

*Казімір Сваяк пасьпеў спраўдзіцца як Паэт, пакінуўшы па сабе цудоўную і цэласную кнігу вершаў "Мая ліра", але ж гэта, вядома, ня ўся сваякова паэтычная спадчына. Ён быў таксама аўтарам драматычных абразкоў, пьесаў, апавяданьняў, публіцыстычных трактатаў і літаратуразнаўчых артыкулаў, у якіх выяўляліся рознабаковасьць і бляск ягонага таленту, глыбіня веды і палымяная душа адраджэнца. Формулай сьвятарскай дзейнасьці К.Сваяка былі словы: "З народам для Бога", што нарадзіліся ў ягонай душы як вынік унутранай палемікі зь непрыймальнай для яго ідэяй сацыялістаў, якія на грунце атэізму прамаўлялі: "Бяз Бога для народа".*

*Усьведамленьне ўласнага сьвятарскага пакліканьня і шчырае самаспапяляючае жаданьне служыць свайму Краю, свайму народу, які ён называў няйначай як зь вялікай літары, гарманічна і натуральна прывялі К.Сваяка да ідэі Уніі, да вызнаньня Уніі як нацыянальнай рэлігіі беларусаў, што лучыла ў сабе лацінскі і грэцкі абрады ў адной веры і па сутнасьці ўзнаўляла адзінства Хрыстовай Царквы. К.Сваяк разумеў, наколькі істотна для культурна-гістарычнага і дзяржаўнага адраджэньня Беларусі ідэя рэлігійнага аб'яднаньня народу, разьдзеленага духоўна на дзьве часткі, бо падзел гэты скрозь вякі пасьпяхова выкарыстоўваўся больш моцнымі суседзямі ў асіміляцыйных і палітычных мэтах. Жывы нацыянальны арганізм распадаўся і нішчыўся, Унія была яго выратаваньнем, Унія была шляхам згоды і паразуменьня.*

*Пасьля чарговага лячэньня ўзіму 1919-1920 гг. на курорце ў Закапаным, але не адчуваючы сябе дастаткова моцным для парафіяльнай дзейнасьці, К.Сваяк жыў нейкі час у вёсачцы Падбродзьдзе, паводле ягонага выразу, як "абыватаць вольнага паветра", дзе перапісаў абдуманы і ўчарнавіку выкананы крыху раней свой трактат "Унія на Беларусі". Фрагменты з гэтай працы друкаваліся ў 20-я гады ў віленскай беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай газэце "Крыніца", зь якой К.Сваяк пастаянна і плённа супрацоўнічаў. Якраз "Крыніца" на той час найбольш актыўна і па-адраджэнцку мэтанакіравана пашырала сярод беларускага сялянства і інтэлігенцыі ідэі Уніі. Маем магчымасьць зараз пазнаёміць цябе, дарагі Чытачу, зь першай часткай гэтага трактату К.Сваяка "Адроджэне Беларусі і Унія". Перадрук зроблены з аўтарскага лацінічнага рукапісу і, па магчымасьці, захоўвае ўсе моўныя асаблівасьці аўтэнтыку.*

***Барбара***

# КАЗІМІР СВАЯК

# АДРОДЖАНЬНЕ БЕЛАРУСІ І УНІЯ

Адроджэне месьціць ў сабе два элементы: мінулы і новы (той, што мае паўстаць разам з быўшым). Адроджэне знаемо матэрыяльнае і духоўнае, мысловае і маральнае. Тое і другое паўстае на грунце працы, а з працы пакаленьняў высновываецца культура. Аднаўленьне матэрыяльнае народу ёсьць падкладам да яго дабрабыту і яго тэхнічнага розвітку, каторы назавём *цывілізацыяй*. Вось падставовае адроджэне Беларусі ляжыць перш-наперш у спаўненьні вядомых задач эканамічных, як: 1) Прапорцыя ў валаданьні зямлёй, або іншымі словамі – раздрабленьне вялізных абшараў зямлі на хутарныя гаспадарства.* 2) Правод дарог водных і сухапутных для ажыўленьня зносін гандлёвых. 3) Утварэньне беларускай урадовасьці. 4) Заснаваньне школ эканамічных для культуры гаспадарства і промыслу, *etc.*

У гэтым кірунку пойдзе разгон руху беларускага, калі ён мае мэтаю росьцьвіт радзімай старонкі. Направа адносін гаспадарскіх краю – з натуры сваёй хлебаробнага – ёсьць першазначнай работай на дарозе да лепшае будучыны.

Але я не аб тым. Гаманіць я маю аб важным складніку культуры нашай бацькаўшчыны, каторы прыдаў ёй асобы характар у гісторыі і вытварыў шмат руху ідэйнага. Ня пройдзе бяз сьледу ён і ў сучасным змаганьні за будучыну, бо хоць многа што змянілася ў жыцьці старонкі, аднак *душа народу* змяніцца не магла.

Я маю на мысьлі Унію, або з'єднаньне Усходу з Заходам пад узглядам рэлігійнага сьветагляду. Німа нам часу апісываць прычынаў, што стварылі разлад між народамі грэцкіх і лацінскіх абрадаў. Пакажам толькі, што самай важнай з іх была вось гэта. Народы ўсходнія падпалі пад кнут бізантыйскага абсалютызму, а той абсалютызм ня мог знясьці нікога над сабой, нават зусім праўнага ў хрысьціянстве духоўнага верхаводства папежа. І вось бачым, як, з аднаго боку заходняя Цэрква (рымская) праз сталецьці змагаецца безупынна за сваю незалежнасьць у справах веры, а з другога боку, усходняя (грэцкая) консэквэнтна падпадае ўладзе царскай, губляючы духоўную сваю сілу, а замыкаючыся ў перасаднай службітасьці для ўраду, каторы і стаецца запраўдным яе галавой.

Русіны аднак – назавём так Беларусаў з Украінцамі – былі той злучняй, каторая вязала Усход з Заходам. Можа таму іх палажэньню геаграфічнаму дзякуючы, асьцярожны яны былі прад цэзарапапізмам Усходу з адной, як і прад псэўдарацыяналізмам Заходу з другой стараны. І таму відзім, што Русін у сваім рэлігійным сьветаглядзе не паддаецца зразу перамозе Усходу, а з вялікай асьцярожнасьцю лучыць стройны свой абрад усходні з глыбокім догматам каталіцызму заходняга. Кіеўская Русь, з каторай былі ў частых зносінах беларускія плямёны Крывічан, Дрыгавічан і Радзімічан, прымае хрысьціянства з Грэцыі йшчэ ў тым часе, калі Цэрква грэцкая была неразлучнаю з рымскай. Пазьней толькі паддаеца яна разладу, хоць пробы ўтрыманьня еднасьці трывалі заўсёды, а ў 1439 гаду на саборы ў Флёрэнцыі Унія была зноў навязана і трымалася бы, калі б не захоплюючы ўплывы паўстаўшага ў тым часе маскоўскага цэзарызму. *Цэнтрам змаганьня за з'еднаньне,* наагул кажучы, былі землі *Русінаў,* так Беларусаў як Украінцаў, а найбольш выдатным фактам таго змаганьня быў сабор у Бярэсьці (1596г.). Ад таго часу спалучаны рэлігійна наш народ вельмі быстра развіваўся культурна, аж захланнасьць польскага шляхоцтва з аднаго боку, а маскоўскі цэнтралізм з другога, палажылі крэс яго рэлігійнаму і нацыянальнаму розвітку. Развой старога рэлігійнага пісьменства і наагул мастацтва прыпадае на 200 гадоў Уніі (1596 – 1795), то значыць на час, калі Беларусь, з'яднаны рэлігійна, яскрава вырожніваўся *не толькі нацыянальна* з захоплюючых яго дзьвёх сіл палітычных – Польшчы і Масковіі.

Але можа не кождаму ясна, як і чаму змаганьне для ідэі (а спецыяльна для ідэі рэлігійнай) развівае культуру мысловую.* Вось трэба ведаць, што рэлігія гэта справа жыцьця і сьмерці. Раз бо прызнаўшы істнаваньне Бога і душы, не можам быць лёгкадушнымі на тое, як хто дбае аб душу сваю, дзе і як моліцца. Нават тыя, хто прызнаюць веру справай прыватнай кождага чалавека, не могуць спакойна аб тэй

* * *

* Аб тым, хто мае гэтага даканаць, ня можа быць мовы: воля самаго грамадзянства.

* Уважны чытач заўважыць лёгка, што слова "змаганьне" бярэцца тут у значэньні спецыяльным і не нарушае засады талеранцыі, або паважаньня пераконань чужых.



справе гаварыць – як аб кождай іншай прыватнай справе. Жыццё вечнае, або да магільнай дошкі, жыццё ў злуцы з Богам, або ў вечным з Ім разладзе; бытаваньне без канца, або вечная нітосьць, – справы гэты варушаць мысьлі ўсіх людзей: або за, або проціў. Гэта "за" і "проціў" і будзіць змаганьне ідэі, а нет чалавека, каторы ў душы сваёй маўляў бы: "Для мяне ўсё роўна – быць ці не быць". Прызнаўшы Бога як адвечнае Дабро, пакорымся Яму як прычыне ўсяго добрага, і верым, што Огляд Ягоны кіруе ўсім прыгожа. Зло бачым у нашай волі свабоднай а да дрэннага нахілянай ад пачатку свайго істнаваньня. Змагаем тады свае злыя парывы і жывём не столькі на карысьць сваю, колькі для бліжняга, шануючы ў ім твор Божы. "Аддай цэзарэва – цэзару, а боскае – Богу", – кажа Хрыстос, т.з. што грамадзкага аддай грамадзе, а сябе – бо ты Божы абраз – аддай Богу. Сябе ж іначай Богу аддаць нельга, як укладаючы так абычай свой, каб цэлае жыццё сваё было мілым Богу і людзям. Зразуменьне абавязку працы для бліжняга, злом пераможанага; тужлівасьць за злучэньнем з Богам, як мэтай апошняй разумнага жыцьця, – вось гдзе істота рэлігіі, вось *тайніца поступу* цэлай людзкасьці. А такім парадкам рэлігія асьвечае кожду справу чалавека, і з натуры сваёй уходзе да ўсіх твораў яго духа, значачы пячаткай або прыязьні для Бога, або нянавісьці. Прачытайце першу-лепшую кніжку, а ўбачыце, што аўтар хоча ці не, а мусіць паказаць свае пачуваньні адносна да рэлігіі: "за" або "проціў". Рэлігія, лучачы чалавека з засьветам, знаходзіцца натуральна ў кождай важкай справе людзкога бытаваньня.

Выставам душы кождага народу ёсьць пісьменства – літаратура. Кожды народ багатай культуры мае шмат твораў, так устных як запісаных, выражаючых аб чым ён думаў у глыбіні душы сваёй. Вось калі глянем, памінаючы устныя творы, на нашу старую Беларусь, – то ўбачым, што яе тагачаснае пісьменства датычыць пераважна спраў веры і ляжыць у працах над утварэньнем *еднасьці рэлігійнай* Беларусаў усходняга і заходняга абраду.* І еднасьць такая фактычна прышла бы, калі б не разбіла яе царская Расея, каторая – падобна да даўнейшай Польшчы – не прызнавала істнаваньня асобнага духа ў нашым народзе. Але ідэі вышшыя мацней лучаць людзей, чым кандалы пераможцы, а Огляд Прадвечны спраўляе ўрэшце трыумф справядлівасьці. Праз Русінаў пала шляхоцкая Польшч, праз Русінаў развалілася царская Расея, а на тым развале аджыла і Беларусь да новага жыцьця.** Раз'ядная рэлігійна, зняможаная эканамічнай няволяй, асіленая захоплюючым нацыяналізмам суседзяў, яна йшчэ можа "маладая ў жылах". Традыцыя мінулых часоў замерла. Патомкі даўных правадыроў адпалі ад народу, а сам так званы "тутэйшы" ня ведае нат хто ён. Тымчасам спаць не пара, бо на векі праспаць можна долю сваю. Вялікі вось цяжар спаў на плечы сыноў беларускай вёскі – тых добрых сыноў і дочкаў, што пайшлі да галавы па розум і не прадалі справы чужынцам, сьмела заяўляючы прад усім сьветам права Беларуса да вольнага быту. Іншыя славянскія народы даўно ўжо кавалі сабе лепшую долю, мы цяпер толькі асьмеліліся ўзяць лёс свой у свае рукі.

Забіў расеец у нас ідэю Уніі, каторая служыла злучняй не толькі рэлігійнай народу, але па часьці і сацыяльнай. Але гэта не ўсё йшчэ. Палітыка маскоўская дачакала дзіўнога для сябе жніва. Назвала яна каталікоў беларускіх палякамі – і вось польшчына сталася мовай касьцёльнай усіх каталікоў на Беларусі. Народ наш каталіцызм і польскасьць стаў браць за адно. Любіў каталіцызм цэлай душой, прывык і да польскасьці касьцёла, уважаючы мову гэту (хоць яму чужую) за нешта быццам сьвятое а вышшае ад яго будней гутаркі. Па веры ён нат гатоў назваць сябе Палякам. "Хто ты?" пытаюць "шкаця" з павету Сакольскага. "Я каталік – паляк". "Ну а мазуры – (тыя, што, як вы кажаце, родзяцца сьляпымі) – яны хто?" "Яны? А чорт іх ведае", адказуе "тутэйшы" цёмны Русьняк.* І няхай жа вас не задзівіць гэта памешаньне. Было яно вызнаўкам таго адпору, які даў Беларус лацінскага абраду на захланнасьць расейшчыны. Маскаль гвалтам пхаў сваю мову і сваю казёншчыну ў рэлігійныя адносіны Беларусам праваслаўным і Беларусам каталіцкім. Усе гэтыя парадкі зрадзілі нам вялікую бяду, бо творчасьць беларускай мысьлі рэлігійнай затрымалася на час доўгі. Але ж будзе ўжо канец тэй мандроўцы Беларускай паняволі з Югу на Поўнач і з Заходу на Усход.** Адбыла Беларусь крыж і зайшла аж на Галгофу. Перастануць жа калікольвек тузгаць Беларусь як нявольніцу: "Ты мая, ты мая". Пратрэвочы ўрэшці і сам Беларус і пакіне тую сумную, скрытую, безнадзейную раўнадушнасьць прыбітай душы. Ажыўлены, пазнае ён сілу маральную каталіцызму – і то без таей сувязі з мовай чужой, але ў злучні таёмнасьці сваёй чыстай славянскай натуры з рацыянальным дагматызмам навукі Усясьветнай Цэрквы. І дасьць ён нам новае мастацтва беларускай мысьлі рэлігійнай. Збанкрутаваў культ сілы, гэта дзіця пратэстантызму, збанкрутаваў культ кветызму, што забіў у Гішпаніна патрэбу духоўнай трудавітасьці, прапаў культ ураду (царэслаўе), – няхай жа зажыве *славянскі уністыцызм*, узяты

* * *

* Да таго старога пісьменства можна таксама залічыць твор польскага вялікага прамоўцы Скаргі – "Абарона Берасьцейскага Сабору" – пісаны па-беларуску.

** Роля Русінаў (Украінцаў і Беларусаў) у гэтых двух сьветавых здарэньнях дагэтуль мала брана была на ўвагу.

* * *

* Каталіцызм стаўся як бы манаполем польшчыны, і Беларусы рымскага абраду пісаліся ў Расеі Палякамі.

** Браў Беларус пугай па плячах ад Татара, Літвіна, Паляка і Расейца. Адтуль пайшлі вось якія выразы: 1) Такі чорт як татарын. 2) Каб ты ў Вільні горы капаў. 3) Дам у цэркві за грахі, каб загінулі Ляхі. 4) З Маскалём дружы – камень за пазухай дзяржы.



ў рамы догмы вечнажывучага каталіцызму. А той здаровы містыцызм няхай мае сваё ўяўленьне ў *славянскім абрадзе,* каторы вырабіўся мнагалетняй працай аб'ядналых Русінаў і выражацьме рэлігію волі і ўчыну.

Збратаньне рэлігійнае Беларусаў – гэта Унія (еднасьць) у навуцы веры, хоць у двух абрадах: славянскім і лацінскім.* Ідэя аднэй бацькаўшчыны Беларусі спалучае народ цэлам, Унія злучае душу народу, – а так будзе ён тым жывым арганізмам, для паўстаньня каторага калісьці праліў кроў сьв. Йозафат Кунцэвіч (1623). Заўсёды найбольшым жахам у нас прад Уніяй быў страх вынарадоўленя на карысьць Польшчы, прычым гэта вынарадоўлене аблудна называна лацінізацыяй. Але, здаецца, тыя часы ўжо мінулі, калі рэлігію ўжывалі для дэнацыяналізацыі. Палякам тут можна шмат закінуць, але маскалём яшчэ больш. Першыя сваю захланнасьць сфармулявалі выражэньнем: *"Natione Polonus, gente Ruthenus"* (Русін родам з нацыі Паляк мае значыць). Другія – зусім знаць ня хочуць самабытнасьці Русіна. Тыя толькі ўвадзілі мову сваю да уніяцкіх цэркваў, гэтыя скасавалі камплетна Унію, а з расейшчынай наваліліся на лацінскія касьцёлы. Што ж Беларус меў рабіць? Адны рынулі у праваслаўе, другія, як вядома, прыліплі да польшчыны, ратуючы сваю каталіцкасьць. Зводьна звыкліся людцы з гэтым анармальным станам, хоць – дамо ім чэсьць – у змаганьні за еднасьць далі такжа мучанікаў – уніятаў. Каб жа кроў іх бязвінная-чыстая выслужыла сучасным Беларусам сьвятое аб'еднаньне! Сумнай гісторыяй павучаны, то цяпер будуць яны мудрымі. Бо прэ на нас таксама сіла нячыстая ўсіх старон. Адны ўважаюць рэлігію за рэч добрую толькі да змацненьня ў "людзе" так званага патрыятызму; другія хочуць заступіць яе рознымі падробкамі рэлігіі, як культам гонару, этыкай безконфэсійнай; трэція ўрэшце (найгоршыя) лічаць яе пережыткам. Усе гэты мары выстаўляюць свае агідныя рукі, каб ухапіць і згвалтаваць ідэі Уніі. Апроч таго з Усходу пасуваецца зблуканы дух даўнейшага цэзарызму – рэлігійная анархія. Няхай жа вольная самабытная Беларусь мацуе свайго духа, лучачы брата праваслаўнага і католіка ў адзін народ, веры ў Бога адной, Цэрквы Хрыстовай адной – дзе ўсе народы роўны і вольны.

Змаганьне за сьветагляд дае шмат твораў у кождай галіне жыцьця. Новае наша пісьменства агулам убогае, а ўжо спецыяльна рэлігійнае. Маем шляхоцка-народнае пісьменства Баршчэўскага і Марцінкевіча, маем дэмократычна-ідэйную літаратуру найнавейшых пісьменьнікаў, але з творамі рэлігійнай мысьлі лепей нам схавацца. Народ наш, праўду кажучы, мо і не вытварыў ані песьні чыста рэлігійнай, ані легенды. Так чужа мова скруціла лёт яго фантазіі! Сьпевы душы павінны выслаўляцца ў роднай мове, той мове, каторай дзіця шчабечыць на каленках сваёй маці. Тады адчуваньні нашы найбольш сьвежы, а ўява жыва, і тут ляжыць прычына, што роднай мовы не можна пазабыці, а гаварыць і пісаць у ёй найлягчэй, бо яна плыве негдзе з-пад сэрца. Вось у нас поэзія рэлігійная не існуе і не зродзіцца, пакуль мы не зачнём маліціся па беларуску.

* * *

* Або рымскім і грэцкім, есьлі каму так да спадобы.

Змаганьне за рэлігійнае аб'еднаньне Беларусі дасьць цэлу галуж літаратуры, літаратуры разбіраючай справы вагі найвышэйшай. Можна тут паказаць прыклады з гісторыі народаў, дзе змаганьне ідэй рэлігійных дало вялікі ўзрост культуры мысловай. Так век XУІ быў сталецьцем росьцьвіту літаратуры польскай пад навевам новых думак (асабліва ў справе веры) з Заходу. Змаганьне з протэстантызмам у сваім часе дужа ажывіла і нашу старонку. Прылучылася сюды йшчэ справа Уніі, і вось тады гэта заснавана было шмат друкарняў на землях Беларусі, бо ажывілася праца мысьлі. Праўда, што ў тым часе многа дзеялася і благога праз фанатызм дрэнных людзей. Гэта любяць нашы ворагі класьці на адказ каталіцызму. Але ведама ўсім, што праўдзівая вера са сьляпым фанатызмам нічога супольнага не мае. Адным словам, хацелася бы мне памагчы збудзіць рух на ніве рэлігійнай Беларусі, бо веру, што ён даў бы яе сынам сваё аблічча і змацаваў бы – праз Унію – сілы душы іх. Ідэя вялікая, сьветазарная – тым труднейшая да спаўненьня, што мала хто яе разумее. Але яна ўсё пераможа. Вось вам словы Хрыста-Бога: "Прышоў Я па тое на сьвет, каб пусьціць агонь, а чаго ж больш хачу як таго, каб ён загарэўся". Агонь, мілыя, гэта сьвятое аб'еднаньне ў любові Хрыстовай, што выпалівае з душы бруд нянавісьці і разладу. Яно будзе гарэць!

Вельмі цікаўнае з'яўленьне, што Расейцы ў дзеякіх сфэрах хіляцца да каталіцка-лацінскага абраду. Вялікае пытаньне, ці каталіцка-славянскі абрад утрымаецца ў Расеі. Рэч – на маю думку – простая: ідэю Уніі разьвівалі Русіны, а не Расейцы, і дзеля таго яна там не можа запусьціць глыбшага карэньня, падчас калі між Украінцамі – ў часах апошніх – дачакала яна нат значнага маральнага пашырэньня. З другога боку, здаецца, што і Польшч не мае вялікай ахвоты прапаганды Уніі, бо перастала ўжо гэта даўнейшая "хлопска вяра" мець *спецыяльную закваску,* каторая была патрэбна палітыцы*. Так гісторыя як і сучаснае палажэньне вучыць нас глядзець на Унію зусім іншымі вачыма, чым нашы суседзі. Іх сучасная псыхіка прымушае нас паддзяржаць Унію як нацыянальную веру Русінаў.

Але хацелі б некаторыя бязверцы асіліць ідэі рэлігіі праз аддзел варожы Цэрквы ад грамадз-

* * *

* Справу Уніі Польшча даўно ўжо ўпусьціла, не прызнаўшы Русінаў за палітычна раўнапраўны народ. Так званае вялікае пасольства Польшчы на Усходзе хутчэй адносіцца да запасу зямлі як да Уніі. Для гэтай справы цэнтралізм шкодзіць роўна варшаўскі як маскоўскі.



кага жыцьця і санкцыю атэізму (бязверства). З вышэй сказанага можам лёгка ацаніць гэту работу і знайсьці яе жарало. Добра табе, паночку, і карысьне быць безрэлігійным: маеш свабоду. Пазволь жа і нам быць свабоднымі і развязаць справу веры як падабаецца. Рэлігійная супольнасьць злучаецца без прымусу, сілай самай ідэі, або ласкі Сьвятога Духа. Хто не жыве паводле яе наказаў, тым самым знаходзіцца ўжо за межамі духовага грамадзянства. І наадварот, хто нават ня пішыцца ў лічбу гэтай супольнасьці, а ёсьць чалавекам добрай волі, праўдзівай справядлівасьці, тым самым належыць душой да Цэрквы Хрыстовай. Аднак для цьвітучага розвітку рэлігіі патрэбна вольная арганізацыя веруючых. А выкідаючы рэлігію з грамадзкага жыцьця як нешта лішняе, запраўды адбіраем яму канечную для поступу маральнага свабоду. Чалавек – бо істота грамадзкая і рэлігійная (анімал рэлігіозум) – і рэлігія з жыцьцём грамадзкім павінна йсьці ў дружнай пары. Штобольш скажу, кожды добры грамадзянін павінен дужа ўспамагаць справу веры, бо яна ёсьць той магутнай сілай, што найтайнейшымі і наймацнейшымі вузламі звязуе грамадзянства ў адно цэлае. Павінен ты, браце, добра цяміць тую малітву Хрыстову на першай літургіі: "Каб усе былі адно", і ніколі ня ўпасьці ў слабасьць, уважаючы, як блага людзі робяць. "Майце надзею" – вучыў Хрыстос – "Я перамог сьвет" (Еван. сьв. Яна).

Такім вось чынам дайшлі мы да выснаву, што Беларусі патрэба не толькі грамадзкай уніі-еднасьці, але таксама Уніі рэлігійнай. Мімаходам скажу не даказуючы, што рух да Уніі павінен зачацца ад інтэлігентнай моладзі, бо люд "просты" знае дзьве толькі веры: польскую і рускую (праваслаўную). Каталіцызм абраду славянскага або вышаў ужо яму з памяці, або ён да яго не дарос. Так пачатак з гары: кожды культурны Беларус мае быць прыхільнікам Уніі, есьлі ўжо проста не уніятам.

З колішняй буйнасьці, пабаранай праз агідную палітыку беларускіх апекуноў, асталіся толькі крошкі рэлігійнага жыцьця займаючага нас характару. Традыцыя аднак аджывала яшчэ перад вайной – каторая такі аграмадны пераварот на цэлай Беларусі ўчыніла – аджывала, паміма небывалых перашкод для культуры беларускай. Дзеля даказу маёй мысьлі цытую апіс беларускай парафіі Хвашчоўкі з Магілеўшчыны. Парафія гэта лацінскага абраду, але знаюць яе патомкі і тых Беларусаў, што калісьці з прымусу пакінуўшы Унію, пачувалі агіду да казёншчыны. Які велізарны пад'ём духа чуе падарожны ў ра палянай пустыні, калі зняможаны смагай убачыць здалёку цень лесу – оазу!.. Такое ж пачуцьце перажываў я, прыяжджаючы да Хвашчоўкі. Кругом зніштажэньне, упад рэлігіі, вынарадоўлене. А тут адпачывае чалавек... Як цьвітучая оаза між другімі парафіямі выглядае Хвашчоўка. Перанясла ўсе буры і поўная веры гарачай асталася.

Стройны касьцёл, найвялікшы на Беларусі, ёсьць асяродкам парафіі. Вакол яго разселася дзевяць вёсак каталіцкіх. Кругом гавораць чыстай мовай беларускай. Айцы Езуіты калісьці далажылі вялікай працы, каб Беларус не страціў сваёй мовы. Выдалі яны беларускі катэхізм, навучалі па-беларуску, вучылі песьняў. І цяпер яшчэ кожды ўмее сьпяваці: "Ах мой Божа, веру Табе. Ва ўсё веру дзеля Цябе". Глыбокае ўражаньне бывае, калі вялізная грамада людцоў запяе гэту песьню сьвятам, а пекная мелодыя запаўняе цэметар, сьвятыню і аколіцы. Хвашчоўка так добра перахавала свой беларускі характар, што сялянцы дагэтуль убіраюцца ў строі народны. Люд тутэйшы аказаў дзіўную да веры прывязнасьць. Ніякія беды не трафілі перамагчы яго. У суседстве знікаюць парафіі, змяняюцца гаспадары касьцёлаў, або пусьцеюць тыя з недахвату пабожнасьці. Палі так Дудаковічы, Бялынічы, Княжычы, а Хвашчоўка істнуе ў пабожнасьці і паслушнасьці боскаму праву. "Цераз нашы трупы да касьцёла хіба пойдзеш!" – адказалі хвашчавяне грамадой ісправўніку, калі той прыехаў адбіраць ім сьвятыню. І сягоньня йшчэ ня зменшылася гэта любоў да касьцёла. Ідуць туды ахвотна, а не чуваць між імі жыцьця распуснага, немаральнага.

Многа пробашчаў вучылі тутка народ па беларуску і так патрафілі прывязаць да веры людцоў, што гатовы былі для яе ўсё ўчыніці. Вялікія сьвяты – фэсты збіраюць у Хвашчоўку цэлыя грамады Беларусаў, нават з мейсц далёкіх – бо далёка разышлася слава Дзевы Марыі Хвашчоўскай. (З выдавецтва *"Naše kościoły"*).

Трэба толькі ад сябе прыдаць, што пры гэтых зборах былі даўней і браты уніяты, бо Беларусы тады былі – веры і Цэрквы адной, а йшчэ біскуп Ізыдор мітрапаліт Кіеўскі і цэлай Русі пасля падарожы на Флёрэнцкі Сабор пісаў так да уніятаў: "Заклінаю вас на Госпада нашага Езуса Хрыста, каб не было між вамі і лацінскімі каталікамі ніякага раздзелу. – Уніяты, каторыя ў краях лацінскіх прабываюць або маюць блізка касьцёл лацінскі, няхай бяруць удзел у імшы сьвятой, так, якбы ў сваёй сьвятыні; няхай сабе і спавядаюцца ў ксяндзоў лацінскіх і з рук іх Цела Госпада прымаюць. Таксама і лаціньнікі павінны учашчаць да цэркваў уніяцкіх, слухаць Літургіі сьвятэй і з верай неабмыльнай чэсьць аддаваць Целу Госпада Ісуса Хрыста, – бо ўсё роўна, ці яно консэкравана сьвяшчэньнікам грэцкага абраду на хлебе квашаным, ці ксяндзом лацінскім на прэсным... Лаціньнікі таксама няхай спавядаюцца ў ксяндзоў грэцкага абраду і ад іх прымаюць сьв. Камунію, бо ўсё роўна, у якім абрадзе прымаюць" *(Ateneum)*.

І хацелася б тут пацешыцца словамі сьвятога Йозафата ў лісьце да Льва Сапегі: "Есьмо пэўнымі, што Магучы Бог гэтаму дзелу (Уніі) багаславіці будзе аж да канчатку і кождую перапону ўсуне, без ніякай шкоды для аб'еднаньня, а нават яшчэ з пацехай духоўнай для з'еднаных". А мітрапаліт Ізыдор яшчэ па Флёрэнцкім Саборы пісаў так да уніятаў: "Няхай жа так станецца, бо гледзячы на ўпадак сьвятога дзела, не адзін сумніўся. Мо і нашаму народу суджана даказаць, што кроў мучанікаў не згіне: будзе яна "сяменьням веруючых".



*Малюнкі Андруся Пазьняка*

# Шляхі да сумоўя

Эрнст САБІЛА

беларускі пратэстанцкі сьвятар

# Слова Божае і мы

"Ерузалім, Ерузалім, забойца прарокаў, каменьмі пабіваючы пасланых да цябе! Колькі разоў хацеў Я сабраць дзяцей тваіх, як птушка зьбірае птушанят сваіх пад крыльлі, і вы не захацелі. Вось жа астанецца вам дом ваш пусты" (Мацьвея 23, 37-38).

Тугою і болем заходзіцца сэрца. калі запынішся на гэтых словах Хрыста. Той, Хто выбраў Сабе народ з нашчадкаў патрыярхаў, тысячы гадоў насіў яго на руках, як дзіця, аказваўся у гэтага народу часьцей непрызнаным, альбо прызнаным няшчыра, чым ушанаваным. Прарокі, якіх пасылаў Ён дзеля навярненьня народу на шлях праўды і жыцьця, "былі каменьнямі пабіваныя, расьпіловываныя, мучаныя, паміралі ад мяча, туляліся ў гавечых і асьліных скурах, церпячы нэндзу, гора, нягоды (іх увесь сьвет ня быў варты), бадзяліся па пустынях і горах, па пячорах і шчылінах зямлі" (Жыд. 11, 37-38). І ўсё гэта рабілася сьвятарамі і старшынствуючым саслоўем. Сэрцы іх не напаўняліся жаданьнем выканаць адзіна добрыя і жыцьцядайныя загады Божыя, але перапаўняліся эгаізмам і пыхай паходжаньня адных ад Аарона, другіх ад Аўраама. Замест таго, каб трымацца чыстага Слова Божага ды выпраўляць сябе па Ім, яны прыдумвалі "...запаведзь на запаведзь..., правіла на правіла... тут трошкі, ды там трошкі..." (Ісая 28, 13).

Усё гэта зводзілася да падмены запаведзяў Божых наказамі чалавечымі. "Ён жа, адказваючы, казаў ім: добра прарочыў аб вас, крывадушных, Ісая, калі пісаў: людзі гэтыя паважаюць Мяне вуснамі, а сэрцы іх далёка ад Мяне. Але дарма пакланяюцца Мне, навучаючы навук і запаведзяў чалавечых. Бо вы, пакідаючы прыказаньне Божае, трымаецеся наказу чалавечага..." (Марк 7, 6-8).

Такое адбываецца ў чалавеку альбо для самаапраўданьня ў грахох, альбо каб паказацца перад людзьмі занадта сьвятым. Гэта прывяло і да ўтварэньня ў адзіным народзе Божым, пры адной сьвятыні і ахвярніку, розных рэлігійных груповак са сваімі наказамі.

Хрыстос, як Творца чалавека, даў чалавеку вольны выбар, але, будучы Богам любові, ужываў шмат дзіўных выхаваўчых сродкаў, каб сьвятары і народ сьведама і добраахвотна выбіралі шлях праўды і жыцьця, але "і вы не захацелі". Тады Хрыстос зьнішчыў усе іхныя грахі сваёй ахвярай, а яны не захацелі і гэтага.

Што ж навучальнага ў гэтай гісторыі для кожнага з нас, як чалавека і як нацыі?

Ды ўсё. Апостал Павел піша, што "гэта былі прыклады для нас, каб мы не пажадалі благога, як пажадалі яны. Усё гэта сталася ім, як прыклады, і апісана на навуку нам..." (1 Кар. 10, 6, 11).

Ці пайшла на карысьць Хрысьціянству навука мінулых вякоў? Калі так, то чаму Апосталу, пасьля заснаваньня царквы, ізноў прыходзіцца вяртацца да настаўленьня ў пачатках веравучэньня?

"Дык я, вязень у Госпадзе, малю вас паступаць дастойна закліку, якім вы пакліканы, з усенькай мудрасьцяй пакоры і ціхасьцяй, з доўгацярплівасьцяй, церпячы адзін аднаго ў любові, стараючыся захаваць еднасьць духу ў саюзе міру. Адно цела і адзін дух, як вы і пакліканы да аднае надзеі вашага закліканьня: Адзін Госпад, адна вера, адно хрышчэньне, Адзін Бог і Айцец усіх, які над усімі, і праз усіх, і ўва ўсіх нас" (Эфэс. 4, 1-6).



*Малюнак Алены Ткачовай*

Сардэчная трывога Апостала пераходзіць у лісьце да Філіпянаў у вялікі боль: "Бо многія, пра якіх я часта гаварыў вам, а цяпер і са сьлязьмі кажу, паступаюць, як ворагі Хрыстовага крыжа..." (Філіп. 3, 18). Плача ня толькі Апостал. Гледзячы на народ Божы тагачасны і бачучы ў ім народ Божы будучых вякоў, плача Хрыстос. (Лука 19, 41-42).

Што ж можа выклікаць, акрамя сьлёз, фармальная прыналежнасьць да Хрысьціянства ("...ты маеш імя, быццам жывеш, ды ты мёртвы" (Адкр. 3, 1)), міжканфэсійная варожасьць, якая абыйшлася многім народам ў вялікае гора, а для беларусаў прывяла ледзь не да зьнікненьня нацыі.

А што прапануе Бог?

Як кожнаму паасобку, так і ўсёй нацыі: адвярніцеся ад бажкоў, апранутых у чалавечыя наказы (Язэкіль 14, 6), але "да Мяне павярніцеся і будзеце збаўлены, усе канцы зямлі, бо Я Бог, і няма іншага" (Ісая 45, 22).

*Фота Алеся Угляніцы* ►



*Над Бацькаўшчынай сумнай і прыгожай,*
*Зачараванай чарам летаргіі,*
*Прыадчыні Аблік свой сьветлы, Божа!*
*Праліся ў душы тайнай Літургіі...*

*Барбара Рысь.*

Пётра Смык



# Каляндарная унія на Беларусі: ці магчымая яна калі-небудзь?

Разам з працэсам аднаўленьня на Беларусі нацыянальнае супольнасьці, усё больш пякучым робіцца пытаньне аб адзіным хрысьціянскім календары. Вядома, што найлепш арганізуе этнічную сьвядомасьць літургічны год, кругабег якога дазваляе містычна суперажываць падзеі, што вызначаюць сутнасьць Хрысьціянства, разам, супольна, адчуваць еднасьць зь сябрамі, родзічамі, дзядамі... Аднак гістарычныя абставіны падзялілі наш народ на дзьве часткі: адныя жывуць паводле гэтак званага Грыгар'янскага, другія – паводле гэтак званага Юльлянскага часаўспрыманьня. Сталася так, што пэўныя каляндарныя ўмоўнасьці зьяўляюцца цяпер значнаю перашкодаю для кансалідацыі беларускага этнасу. Калі ж не ўсталюецца трывалае нацыянальнае адзінства, будучыня Беларусі будзе ўяўляцца вельмі няпэўнай. Таму варта задумацца, як можа быць праведзена каляндарная царкоўная рэформа на Беларусі ва ўмовах ейнага палітычнага і канфэсійнага суверэнітэту.

Гэтая праблема ня толькі беларуская. Шмат якія краіны прайшлі праз гэта альбо яшчэ зьбіраюцца вырашаць каляндарную калізыю ў межах поліканфэсійнае дзяржавы. Вось што, напрыклад, думае адносна разьбежнасьці ў сьвяткаваньні Хрыстовага Нараджэньня ў Літоўскай дзяржаве Архібіскуп Праваслаўнае Царквы уладыка Хрызастом:

"Паводле Юльлянскага календару сьвяткуюць Хрыстовае Нараджэньне толькі Расійская, Ерусалімская ды Сэрбская Праваслаўныя Цэрквы. Усе іншыя аўтакефальныя праваслаўныя цэрквы, а іх цяпер 15, сьвяткуюць Божае Нараджэньне разам з каталікамі. Я лічу, што калісьці і мы (маецца на ўвазе будучая "Літоўская Праваслаўная Царква" – П. С.) таксама далучымся да ўсіх. Урэшце, гэта і ня ёсьць такім важлівым, калі сьвяткаваць. Найважней тое, што мы верым і вызнаем адзінага Хрыста".

Выказваньне уладыкі Хрызастома цалкам адпавядае дзьвюм прапановам, высунутым да Усеправаслаўнага Сабора, падрыхтоўка да якога вядзецца з 1961 году:

1) сьвяткаваць (усім праваслаўным) Вялікдзень у адзін пэўны дзень паводле Грыгар'янскага календару;

2) сьвяткаваць Вялікдзень адпаведна Нікейскім устанаўленьням, аднак паводле Грыгар'янскага календару, прыдаючы пры гэтым паняцьцям "раўнадзенства" і "поўня" літаральны астранамічны сэнс.

Такім чынам, праз нейкі час Усеправаслаўны Сабор, магчыма, вырашыць, што ўсе праваслаўныя цэрквы могуць сьвяткаваць Пасху разам з каталікамі, тады для нас, беларусаў, пытаньне вырашыцца вельмі проста, і нарэшце **Уваскрошаньне Хрыстовае мы будзем перажываць усе разам.**

Аднак радасьць ад гэтага значна памяншаецца, калі пачынаем разважаць лагічна. Па-першае, як вядома, Беларуская Праваслаўная Царква сёньня яшчэ не аўтакефальная, каб прыняць самастойнае рашэньне без узгадненьня з Сынодам Расійскае Праваслаўнае Царквы. А РПЦ, як вынікае з апошніх публікацыяў Маскоўскае Патрыярхіі, зусім не зьбіраецца падпарадкоўвацца ў гэтым пункце Усеправаслаўнаму Сабору (гл., напр., газ. "Православное чтение" № 6, 1990 г.), лічучы, што праваслаўную сьвядомасьць ды наогул чысьціню Праваслаўя можа захаваць толькі Юльлянскае часалічэньне і Александрыйская Пасхалія. І ўсё ж гэты стан не такі безвыходны для нас, калі ўзгадаць рашэньне Сьвяшчэннага Сынода РПЦ 1967 году: "Калі ўзяць пад увагу практыку Старажытнае Царквы, калі Усход і Захад (Рым і азыйскія біскупы) сьвяткавалі Пасху па-рознаму, захоўваючы пры гэтым поўнае малітоўна-кананічнае сумоўе паміж сабою, калі ўзяць пад увагу вопыт Праваслаўнае Фінскае Царквы і нашых прыходаў у Галяндыі, а таксама выключнае становішча прыхажанаў храма Уваскрошаньня Хрыстовага сярод іншаслаўнага сьвету, дазволіць праваслаўным прыхажанам, якія жывуць у Швэйцарыі і знаходзяцца ў юрысдыкцыі Маскоўскае Патрыярхіі, адпраўляць нерухомыя сьвяты і сьвяты Пасхальнага кола паводле новага (г. зн. Грыгар'янскага – П. С.) стылю" ("Журнал Московской Патриархии", 1967, № 8, ст.1). З гэтае пастановы вынікае вельмі заманлівая прапазыцыя: варта толькі Беларускай Праваслаўнай Царкве адчуць унутраныя законы гістарычнага лёсу народу, якому яна служыць, як натуральна вынікае для яе неабходнасьць зьвярнуцца да Сынода РПЦ па ласку дазволіць ёй, як і іншым дачком РПЦ – Галянскай, Фінскай, Швэйцарскай –, адпраўляць увесь сьвяточны круг па Заходне-Эўрапейскаму часалічэньню. Безумоўна, акт пераходу на новы літургічны стыль на Беларусі ня можа адбыцца гвалтоўна і прысьпешліва, што было б зусім не па-Царкоўнаму. Але шляхі да еднасьці, якая так неабходна цяпер беларускаму народу, павінны шукаць і Клір, і міране.

Спадзеючыся на ласку РПЦ, ня будзем забывацца, што для яе пераход на новы стыль – гэта зусім іншае, чымсі для нас. Ведама, наколькі вострым гэтае пытаньне было ў Расеі ХІХ ст., калі цар Мікалай І наклаў забарону на высновy Спецыяльнага Камітэту пры Расейскай Акадэміі навук 1829-30 г. аб мэтазгоднасьці пераходу на Грыгар'янскі стыль у грамадзкім і царкоўным жыцьці. Былі падобныя спробы ў Расеі ў 1860, 1863, 1864 гадох, але ўсё безвынікова. Нарэшце Канстанцінопальская нарада шэрагу Праваслаўных Цэркваў у 1923 годзе ўхваліла рэформу царкоўнага календару, якая прадугледжвала:

а) пераход ад Юльлянскага (старастылёвага) календару да "выпраўленага Юльлянскага", выключыўшы зь ліку 13 дзён, што назьбіраліся з часу Нікейскага Сабору;

б) выкарыстаньне для вызначэньня пасхальнае поўні (і вясновага раўнадзенства) сапраўдныя астранамічныя дадзеныя для Ерусалімскага мэрыдыяна" (Проф. Т. Събев. Църковно календарният въпрос. Синодально издательство. София, 1968, с.33-35).

Але гэтую пастанову РПЦ не падтрымала, і, больш таго, у згаданым выданьні Маскоўскае Патрыярхіі ўжо ў 1990 г. адносна Канстанцінопальскае нарады 1923 г. адзначаецца, што: "Юльлянскі каляндар і Александрыйская Пасхалія, якія разам яўляюць сабою "Вялікі Індыкцыён" візантыйцаў ці "Сьвятатворнае Кола" рускіх пасхалістаў, – гэта інструмент непераўзыходзячага суладзьдзя, дасканаласьці і прастаты". На думку аўтара артыкула "Літургічны час хрысьціянскай культуры" А.Н.Зялінскага, Праваслаўны Цэнтр Канстанцінопальскага Патрыярхата, працягваючы лінію "раскольніцкае" Канстанцінопальскае нарады 1923 г., канчаткова здраджвае думкам "рускіх пасхалістаў" і вядзе да "каляндарнае уніі" з каталікамі. А гэта для РПЦ аніяк не магчыма ўявіць.

Зусім інакш выглядае, калі на справу календару глядзець вачыма праваслаўнага беларуса, які ведае сваю гісторыю і не ідэнтыфікуе сябе з традыцыяй Расейскага Праваслаўя. Гэта, дарэчы, выдатна праглядаецца ў артыкуле "Кананічныя нормы праваслаўнай пасхаліі і праблема датаваньня Пасхі ва ўмовах нашага часу" прафэсара Маскоўскае Духоўнае Акадэміі Дзьмітрыя Пятровіча Агіцкага*, што быў надрукаваны ў "Богословских трудах" (№ 7, 1971, М.).

*** Агіцкі (Огицкий) Дзьмітры Пятровіч – прафэсар Маскоўск. Духоўн. Акадэміі, нар. 26.Х.1908 г. у сямі вясковага сьвятара Гродзенскай епархіі. Сярэдн. адукацыю атрымаў у Віленскай дзевяцігадовай духоўн. сэмінарыі. З 1927 да 1931 г. – студэнт**

Дык вось, наш зямляк, прафэсар безумоўна беларускае ментальнасьці, ва ўзгаданым артыкуле цалкам здымае аргументацыю вышэйназванага А.Зелінскага, які абгрунтоўваў кананічнасьць і чысьціню Юльлянскага літургічнага году пастановаю Нікейскага Сабору 325 году:

"...З часоў Нікейскага Сабору (325 г.) Царква карысталася ў сваёй богаслужэбнай практыцы адзінаю сістэмаю вылічэньня часу... Гэты механізм рэгуляцыі сакральнага часу ягоныя вынаходнікі стварылі настолькі дасканалым і ўстойлівым, што да 1582 году ён злучаў хрысьціянскі Захад і Усход адзіным каляндарна-літургічным мастом... і Апостальскія пастановы ды Правілы Анціахійскага Сабору, якія забаранялі сутыкненьні Пасхі новазапаветнае (хрысьціянскае) і старазапаветнае (юдэйскае), і якія былі зацьверджаны Уі і Уіі Усяленскімі Саборамі, прызнавалі гэтую гісторыка-містэрыяльную пасьлядоўнасьць нерухомаю на ўсе часы".

Інакш кажучы, болей за ўсё турбуе сучасную багаслоўскую думку расейскага Праваслаўя тое, што Пасха, калі прытрымліваццa Грыгар'янскага стылю, можа супадаць зь юдэйскім Вялікаднем. А ўстаноўка на тое, каб правесьці трывалую мяжу паміж праваслаўнаю Пасхаю і юдэйскаю, абгрунтоўваецца пастановамі Нікейскага, Анціахійскага Сабораў і Апостальскімі пасланьнямі.

А вось што піша на гэты конт наш зямляк праф. Агіцкі:

"Нікейскае пастанаўленьне пра Пасху не дайшло да нас. У гэтым галоўная прычына блытаніны ў выказваньнях аб кананічных нормах пасхаліі. І, адпаведна, ніякага правіла, – піша ён далей, – аб тым, каб сьвяткаваць Пасху толькі пасьля юдэйскае, там не было. "Ды і наогул, чаму супадзеньне хрысьціянскага і юдэйскага Вялікадня немагчымае? Ці не таму, быццам бы, што хрысьціянская Пасха можа "апаганіцца" праз дотык зь юдэйскаю? Альбо можа пасьлядоўнасьць Эванґельскага паданьня аб тым, што спярша была Пасха юдэйская 14 нісана (гэта цяпер пятніца перад Вялікаднем – П.С.), а потым ужо Уваскрошаньне Гасподняе. Але ж вядома, што Цэрквам, якія прынялі Нікейскія пастановы, зусім не замінала сьвяткаваць Пасху ў адзін дзень зь юдэямі (з 14 на 15 нісана) і пасьля Нікейскага Сабору – у 328, 343, 347, 370, 394 гадох і ў больш позьнія часы (апошні раз у 783 годзе) ("Богословские труды" т. 7, ст. 206).

Высьвятляецца, такім чынам, што ў праваслаўным багаслоўскім асяродзьдзі Расеі, паводле думак Д.П.Агіцкага, зусім "недакладныя высновы аб сэнсе кананічных прадпісаньняў пра час сьвяткаваньня Пасхі" (ст. 205). "У якім бы становішчы, – іранічна пытаецца ён, – апынуліся хрысьціяне, каб, напрыклад, цяпер юдэі зьмянілі сваю пасхалію ды наблізілі б сваё датаваньне Пасхі да нашага, – ці не давялося б тады нам "уцякаць" ад іх са сваімі датамі і адпаведна пераглядаць сваю пасхалію?" (ст. 206).

А вось згаданы А.Н.Зялінскі іншага меркаваньня на гэты конт. Перайшоўшы на Грыгар'янскі стыль, каталікі парушылі пасьлядоўнасьць Вялікадняў хрысьціянскага і юдэйскага за пэрыяд з 1888 да 1988 году ажно 19 разоў, бо менавіта столькі разоў каталіцкая Пасха надыходзіла раней за юдэйскую і 4 разы зь ёю супадала (значыць, "апаганьвалася"? – П.С.)

Такім чынам, зробім з усяго сказанага пэўныя высновы адносна беларускае "каляндарнае уніі".

1. Сучасныя багасловы РПЦ сьцьвярджаюць, што "ісьцiннасьць Александрыйскае пасхаліі засьведчана саборным вопытам амаль 2000 гадоў". І калі Царквам наканавана калі-небудзь аб'яднацца, дык злучэньне гэтае сфэры літургічна-царкоўнага календару павінна меркавацца выключна на грунце Вялікага Сьвятатворнага Кола (чытай: традыцыйнага Юльлянскага календару РПЦ). Стрыжнем гэтае пасхаліі, як вядома, зьяўляецца дагмат аб несупадзеньні старазапаветнае і новазапаветнае Пасхаў. Прызнаньне гэтага сьцьверджаньня непарушным для Беларускае Праваслаўнае Царквы, назаўжды перакрые мажлівасьць зьліваццa ўсім беларусам у Вялікім Сьвеце Хрыстовага Нараджэньня і Хрыстовага Уваскрошаньня.

2. Цешыць тое, што ня ўсе сьвятары РПЦ лічаць так. Згаданае выказваньне архібіскупа Хрызастома дае спадзяваньне, што неўзабаве праваслаўныя Літоўскае Рэспублікі пераадолеюць бар'ер Маскоўскага Сыноду і далучацца да Эўрапейскага хрысьціянскага часалічэньня. А праф. Агіцкі падмацоўвае такі прагноз навукова: "сьцьверджаньне, што быццам бы згодна канонам хрысьціянская Пасха заўжды павінна ісьці за юдэйскаю, у грунце памылковае".

3. Гэта ў сваю чаргу адкрывае добрую магчымасьць высунуцца сьціплым праваслаўным беларусам па вялікую ласку да свайго кліру, каб той пачаў пацiху задумвацца над пэрспэктываю кардынальнае каляндарнае рэформы на абшары незалежнае Беларусі. Можа, гэта і будзе першым рэальным крокам да хрысьціянскага сумоўя ці ўмоўнае уніі, як сымболя паяднаньня Беларусаў у нацыянальную супольнасьць.

---

правасл. багасл. аддзелу Варшаўскага ўн-ту. У 1932 г. там жа за досьлед на тэму "Гістарычны агляд складу праваслаўных багаслужбаў апошніх трох дзён Страснай сядміцы" атрымаў ступень магістра праваслаўнае тэалогіі. З 1932 да 1939 г. – выкладчык Віленскай духоўн. сэмінарыі, адначасова (1932-34г.) студэнт філалагічнага факультэту Віленскага ўн-ту. У 1939-47 г. працаваў у школах г. Шчучына Гродзенскай вобл. Пасьля адкрыцьця Менскай духоўн. сэмінарыі – два гады працуе ў ёй настаўнікам. З 1951 да 1960г. – выкладчык, а з 1953 да 1960 г. таксама інспэктар Стаўрапольскае духоўн. сэмінарыі. З 1960 да 1963 выкладае ў Менскай духоўн. сэмінарыі, у 1963 г. запрошаны для чытаньня лекцыяў аб сучасным каталіцтве ў толькі адкрытай асьпірантуры пры МДА. З 1965 г. – выкладчык Маск. духоўн. сэмінарыі і Акадэміі, з 1966г. – дацэнт, у 1970 г. за курс лекцыяў "Рымска-Каталіцкая Царква" атрымаў ступень магістра багаслоўя.

**Алег Дзярновіч**



# У ПОШУКАХ КАЛЕНДАРУ – У ПОШУКАХ ГАРМОНІІ

Ня шмат у чалавецтва было праблемаў, якія на працягу ўсёй гісторыі хвалявалі яго, не давалі спакою. Шлях людзей праз Хронас, імкненьне пазнаць Час адбіваліся ў пошуках Календару, у жаданьні знайсьці гармонію з Сусьветам, з цыклямі ягонага разьвіцьця.

Першай натуральнай адзінкай часу, што вылучылі людзі, былі суткі, зьвязаныя са зьменай дня і ночы – часам працы і адпачынку. Праходжаньне Месяцам розных фазаў ад адной поўні да другой вылучыла каляндарны месяц. Сямідзённы тыдзень быў зьвязаны ў значнай ступені са зьменай фазаў Месяца. Назіраньне за зьменай Пораў году вызначыла сонечны год. У залежнасьці ад таго, месяц ці сонечны год браліся за крытэрый, узьнікалі месяцовыя, сонечныя ці месяцова-сонечныя календары. У грунт сёньняшняга календару пакладзены рэфармаваны каляндар Юлія Цэзара, што базіраваўся на месяцова-сонечных даюльлянскіх рымскіх календарах. Да таго часу жрацы, якія кантралявалі пытаньні каляндару, досыць вольна зь ім абыходзіліся, у карысьлівых мэтах то падаўжаючы год, то скарачаючы яго. Пазьней пра гэта казалі так: "Рымскія палкаводцы заўжды перамагалі, але ніколі ня ведалі, у які дзень". Сярэдняя працягласьць году складала 336 1/4 сутак, што перавышала трапічны год на адныя суткі. А для каляндарных падлікаў бярэцца трапічны год (перыяд перамяшчэньня Сонца з кропкі веснавога раўнадзенства – 21 сакавіка, на працягу году зь вяртаньнем у тую ж кропку), які роўны 365 дням 5 гадзінам 46 сэкундам.

У гэтай сытуацыі рэформа календару сталася неаб-

*(Працяг на стар. 25)*

Галіна ДУБЯНЕЦКАЯ



гэты няісны сьвет
быццам адхлыне час
браце маўчы маўчы
падае сэрца на дол

гэты сурочны дом
сочыць нязгасны зрок
падаюць сэрцы скрозь
іх паглынае плынь

крохкае хвілі скон
мроіцца водгук дзесь
нас нам вяртае плынь
поўнымі нейчых сьлёз

дзе наш сапраўдны дом
веяў азораны ўзьлёт
вымавіцца няўзнак
слоў патаемны сэнс



ТАЦЬЦЯНА ШАМЯКІНА

# КРЫЖОВАЯ МАДЭЛЬ БЫЦЬЦЯ



*Малюнак Алены Ткачовай*

Усе промні і фізічныя палі перасякаюцца ў Космасе, паралелі і мерыдыяны на паверхні зямлі, дарогі паміж яе краінамі. Перакрыжоўваецца мінулае і сучаснае, сучаснае і будучае, злучаюцца рэлігіі, лёсы чалавечыя, жаночы і мужчынскі пачатак, дух і цела... Прастора і Час... Прырода і Гісторыя... Цывілізацыя і Культура... Станоўчае і адмоўнае... Рацыянальнае і эмацыянальнае... Крыж – універсальны сымбаль Космасу і Чалавецтва, цэнтральная вось Быцьця.

...Калі канкістадоры прыйшлі ў Амерыку, яны былі зьдзіўлены і ўражаны наяўнасьцю ў мясцовых народаў выявы крыжа. У старажытных майя ён сымбалізаваў цэнтр іх зямлі. У сваю чаргу гішпанцы і партугальцы, авалодваючы новымі тэрыторыямі, памяшчалі на астравах, на адкрытых нанова мацерыках крыж, які азначаў "нараджэньне" краіны, хрышчэньне яе, сакральны акт новага стварэньня. Тое, што было асьвечана крыжам, станавілася "формай", "космасам", рэальнасьцю. Усё астатняе – бязладзьдзе, разбурэньне, несапраўднасьць, непадуладнасьць гармоніі і арганізаванасьці. Крыж дараваў новае жыцьцё, арганізоўваў прастору, быў цэнтрам Сусьвету. Ідэя Крыжа, магчыма, нарадзілася ад вельмі старажытных сакральных уяўленьняў аб цэнтры Існага, ад назіраньняў над навакольнай прыродай, ад заўважанага здаўна падабенства паміж чалавекам і дрэвам.

Чалавек... Дрэва... Крыж...

У некаторых народаў цэнтрам сьвету была Сьвяшчэнная Гара, дзе сустракаліся Неба і Зямля. Напрыклад, першыя хрысьціяне такой гарой лічылі Галгофу. Яна ж была й месцам пахаваньня Адама. Кроў Хрыста пралілася на чэрап Адама, пахаванага пад Крыжам, і сталася збавеньнем Першачалавека. Часам цэнтрам сусьвету быў Сьвяшчэнны Горад ці Храм. І ўсё ж большасьць народаў Еўропы і Азіі ў цэнтр Космасу памяшчалі Дрэва, Прадрэва – як вось, на якой разьмяшчаліся Пекла, Зямля і Брама Нябёсаў. Ідэя Прадрэва зводзіла ў адно агульныя бінарныя супрцьстаўленьні. Прадрэва – дамінанта, арганізатар сусьветнай прасторы. Па вертыкалі яно аб'ядноўвала тры ўзроўні Сусьвету (Падземье – іншасьвет, Зямлю, Неба), час (мінулае –

сучаснае – будучае), пакаленьні людзей (продкі – цяперашнія людзі – нашчадкі) і г.д. Па гарызанталі Дрэва злучала часткі сьвету, поры году, сутак, колеры, натурфіласофскія стыхіі.

Прадрэва – месца перакрыжаваньня Сусьвету і Чалавека. Вобраз Прадрэва даваў цэласны погляд на сьвет, вызначаў для чалавека яго месца ў Космасе.

Дрэва падаравала і іншыя ўяўленьні, якія пазьней увабрала ў сябе Ідэя Крыжа.

Дрэва – брат чалавека па сярэдзіннасьці паміж Небам і Зямлёю (адсюль мастацтва ікэбаны ў Японіі – асноўная структура кожнай кампазіцыі). Больш таго, месца жыцьця Чалавецтва – унутры Расьліннасьці, а ў акце сьмерці чалавек (цела яго) канчаткова памяшчаецца ў сярэдзіну дрэва (труна). Дрэва ўбірае ў сябе Чалавека.

Дрэва – брат чалавека ня толькі ў прасторы, але і ў часе. Расьліна арыентаваная на час, і людзі адчуваюць сябе ў часе, акрамя таго, са спадзяваньнем на вечны кругазварот пераўтварэньняў. Дрэва прымушае думаць пра Вечнасьць. Нездарма час у яго не адналінейны, а цыклічны: кожны год яно замірае, адраджаецца і квітнее.

Дрэва – вялікі вобраз імкненьня да ідэалу, да Сонца, да Неба. Сузіраньне расьліны (дрэва, кветкі) заўсёды духоўна ачышчае і ўзвышае душу.

Дрэва суадносіцца з натурфіласофскаю стыхіяй Агню. Ужо хаця б таму, што яно найлепш гарыць, дае цяпло. З дрэва вырастае полымя, у якога таксама вецьце і якое паўтарае дрэва, але не матэрыяльна, а як сьветаносную ідэю. Дрэва – ня толькі ўмяшчальня чалавека, але й умяшчальня Вагню, захавальнік яго. Дрэва ўступае ў стасункі з усімі іншымі стыхіямі. І калі зямля дае яму форму, дык усё астатняе – ад паветра, ад агню (Сонца), ад вады (Неба).

Дрэва аддае сябе, і гэта павінна быць маральным законам для чалавека, вучыць яго дабру, самаахвярнасьці і прыгажосьці подзьвігу дзеля іншых.

Пасьвячэньне ў жрэцкую касту друідаў у старажытных кельтаў вымагала ад вернікаў дваццацігадовай адзіноты сярод лесу, дыялогу з дрэвамі. Тыя ж друіды лічылі, што фізічны тып чалавека адпавядае таму ці іншаму дрэву. Сам чалавек арганізаваны на ўзор дрэва: у ім ёсьць і карнявая сістэма, і ствол, і карона. Чалавек мае ў сабе Неба (галава, мозг, сьвядомасьць), Зямлю (цела да пупавіны), Пекла (органы нараджэньня).

Мы гаворым пра гэта таму, што Хрысьціянства зусім не антыпрыроднае, у чым абвінавачваюць яго, не антыкасмалагічнае. Хрысьціянства не адмаўляе прыгажосьці і мудрай мэтанакіраванасьці Космасу, наадварот, дазваляе адчуць іх як мага паўней. І само па сабе Хрысьціянства разам з касмаганічнымі ўяўленьнямі ўтварае крыж чалавечага быцьця: духоўная вертыкаль і касьмічная гарызанталь, Дух і цела.

Чалавек з раскрыленымі рукамі, якімі хоча нібы заключыць у абдымкі ўвесь Сьвет, – таксама ідэя Крыжа.

Паверхня зямлі ўяўляе сабою як бы нябачную на вока сетку – перакрыжаваньне ліній невядомых яшчэ энергіяў, электрамагнітнага, гравітацыйнага, хранальнага поля, "вадзяных жылкаў". Бусел – сьвяшчэнная птушка беларусаў – будуе свае гнёзды заўсёды на скрыжаваньні такіх ліній, дзве найбольш моцна праяўляюцца магутныя сілы Зямлі. Не было ніводнага ўдару маланкі ў буслінае гняздо, хоць яны разьмешчаны заўсёды на самых высокіх дрэвах. На такіх скрыжаваньнях будаваліся і Храмы. Таму так лёгка чалавеку ў царкве, дзе ён здаравее ня толькі душою, але й таксама целам.

Існуе два напрамкі чалавечых імкненьняў: гарызантальнае – імкненьне ў сьвет "дольні" і вертыкальнае – імкненьне ў сьвет "горні". Сымбалем дольнага шляху (ад старажытнага слова "дол" – поле) была дарога і рака як дарога. Сымбалем горняга – Дрэва і Храм. Іх перасячэньне – Крыж.

У кожнага народа свая сістэма каардынатаў у поглядах на сьвет, свая прасторавая культура. Нацыянальны пейзаж беларусаў – гэта разнастайны краявід, скрыжаваньне гарызанталі і вертыкалі: поле, луг, сінь азёраў, пакручастыя стужкі рэчак, паселішчы, зьяднаныя дарогамі ды сьцежкамі, – і курганы, дрэвы, лес, храмы. І крыжы на раздарожжах.

Дарога – дамінуючы вобраз-топас беларускай літаратуры, але, калі ў рускіх яна імкнецца ў бясконцасьць, у вечны пошук шчасьця, казачнай краіны Белаводзьдзя, дык ад беларуса яна хутчэй вымагае пошуку, творчасьці, выбару. Магчыма, таму такі важны матыў ростані, скрыжаваньня дарогаў у беларускай літаратуры, што геаграфічна мы знаходзімся "на ростані": амаль у цэнтры Еўропы, паміж Усходам і Захадам, Поўначчу і Поўднем. Спрадвеку – выбар шляху. Гэта мабілізоўвала думку, прымушала сканцэнтроўвацца, задумвацца. Але і жыцьцёвыя дарогі асобнага чалавека, і гістарычныя дарогі нацыі могуць быць дастаткова доўгімі, пакуль стане народ перад канчатковым выбарам, пэўным рашэньнем. Ва ўсякім разе, факт некалькіх Адраджэньняў на Беларусі сьведчыць пра пастаяннае і няўхільнае назапашваньне творчага патэнцыялу. Лёс беларускага народу якраз і даў важнейшы вобраз – сымбаль усяе беларускае культуры – Крыж. Крыжы або каплічкі на ростанях дарогаў былі асабліва характэрны менавіта для Беларусі (яшчэ для Польшчы і Літвы). Крыжы ў паэтыцы класікаў беларускай літаратуры (Францішка Багушэвіча, Янкі Лучыны, Янкі Купалы, Натальлі Арсеньневай, Васіля Быкава) – і тыповы беларускі краявід, і сымбаль беларускага лёсу; зьява матэрыяльная (у вышыўцы, дэкаратыўным мастацтве) і глыбока духоўная. Падсьвядома адчуваючы сябе ў шчамлётках паміж Усходам і Захадам, беларус у крыжы ўвасабляў свае імкненьні да свабоды, да Бога, да Неба і Сьвятла. Крыж быў і ўмяшчальняй духоўнасьці, дабра і зла, высокіх ідэалаў і грахоў, бо не было куды ім расьсейвацца ў прасторы.

Большасьць народаў сьвету неаднойчы перажывалі пачуцьцё дарогі. Але зь цягам часу гарызантальны рух пачаў замяняцца вертыкальным – назапашваньнем культурных дасягненьняў, што і вызначыла высокі ўзьлёт, імклівае разьвіццё краінаў Еўропы. Беларусь жа пакуль так і застаецца на раздарожжы, на ростанях...

Крыж – ня толькі важнейшы элемент беларускае нацыянальнае сьветабудовы, але й велізарны агульначалавечы рэлігійны, філасофскі сымбаль. У глыбокай старажытнасьці ў некаторых культурах крыж азначаў агонь, у іншых – ядраныя мужчыны і жанчыны або розных бакоў сьвету.У старажытнай Індыі, другіх рэгіёнах Азіі ламаны крыж – свастыка (крыж, які нібы імкнецца ў кола, круг) – меў значэньне вечнага кругазвароту жыцьця, сымбалізаваў урадлівасьць, Творчы Розум, рух Сусьвету, Сонца. Старажытныя арыі пакланяліся Крыжу, як сымбалю зямнога і нябёснага Вагню, як знаку Жыцьця і Любові. Пазьней жрацы Егіпту бачылі ў крыжы сымбаль Вялікае Містэрыі, адзінасутнасьць Тройцы (цела, дух, душа; Бог, Прырода, Чалавек; Неба, Зямля, Іншасьвет і г.д. – сьвет, напоўнены Боскай тройнасьцю). У Хрысьціянстве Ягня і Крыж – знакі Хрыста, сына Божага і сына Чалавечага, Любоў і Вечнае Жыцьцё.

Укрыжаваньне – адзін з самых жорсткіх з усіх прыдуманых людзьмі відаў пакараньня сьмерцю. Укрыжоўвалі злачынцаў вавіланяне, персы, фінікійцы. Грэкі і егіпцяне, да іхнага гонару, адмовіліся ад такога пакараньня, а вось рымляне ўзялі яго на ўзбраеньне. У рымлянаў існавалі крыжы трох відаў: *"cruz comissa"*, або крыж сьв. Антонія, меў форму літары "Т"; *"cruz*

*immissa*", або "лацінскі крыж", выглядаў як знак "плюс" (+). І нарэшце, "*cruz decussata*", або крыж сьв. Андрэя, быў падобны да літары "Х". Невядома дакладна, на якім крыжы быў укрыжаваны Ісус, Сын Божы.

Паводле старажытнага звычаю асуджаны сам нес свой крыж на месца пакараньня. Часта ён ня мог, бо яго білі перад гэтым. Білі і Хрыста. На думку гісторыкаў, крыж мог важыць каля 70 кг. Ісус мусіў цягнуць яго 600 ці 700 метраў па няроўнай дарозе (сёньня "*Via dalarosa*" у Ерусаліме). Ён падаў тройчы і, нарэшце, увогуле ня змог далей працягваць шлях. Тады рымскія салдаты спынілі селяніна Сымона Кірыніяніна, які вяртаўся з поля, ды загадалі яму падняць крыж і данесьці яго да Галгофы.

Для першых хрысьціянаў крыж доўга заставаўся ўвасабленьнем страшэннага прыніжэньня чалавека і зьнішчэньня яго. Цяжка было прывыкнуць да Крыжа як сымбаля выратаваньня і новага жыцьця, паколькі ў рэчаіснасьці ён быў знакам сьмерці ды пакутаў. Але ўжо апостал Павел у сваёй хрыстасалогіі ўсьвядоміў Крыж сымбалем збаўленьня, выратаваньня чалавецтва праз ахвярніцкую сьмерць Хрыста і таму – сымбалем вечнага жыцьця і канчатковай перамогі Хрысьціянства.

Але крыж і ў суседніх народаў – ня толькі ў Рыме і Палестыне – і нават ў яшчэ больш глыбокай старажытнасьці быў знакам яднаньня зямнога і нябёснага, сымбалем Жыцьця і Сьмерці, вечнага кругазвароту жыцьця, яднаньня ўсяго ў Космасе. Рэчы, арнаментаваныя рознай формы крыжамі, былі знойдзеныя археолагамі ў старажытных шумерскіх і вавілонскіх гарадах Месапатаміі, у Індыі, Сірыі, Персіі. У Егіпце крыж з кропкай наверсе быў іерогліфам, які азначаў разуменьне Боскага. У Галіі (гэта значыць на тэрыторыі сучаснае Францыі) былі грошы ў выглядзе крыжа, заключанага ў круг. Знак крыжа быў непарыўна зьвязаны з культам Прыроды. Вось, відаць, чаму такая старажытная традыцыя, глыбока замацаваная ў сьвядомасьці і падсьвядомасьці нашых продкаў, адыграла пэўную ролю у ператварэньні крыжа ў вышэйшы сымбаль Хрысьціянства.

Магчыма, заходнія мастакі ў выявах Укрыжаваньня, не заўсёды правільна паказваюць яго з пункту гледжаньня медыцыны і навукі, бо ўжо з ІУ стагодзьдзя, калі Канстанцін Вялікі адмяніў такую форму пакараньня, людзі забыліся пра сьмерць на крыжы. Аднак ня гэта было галоўнаю мэтай. Больш важным было паказаць Крыж так, каб ён з эмблемы пакуты і прыніжэньня ператварыўся ў Надзею, ў Веру, у сымбаль новай эры ў гісторыі чалавецтва. Бо на крыжы быў ня проста чалавек, а найсьвяцейшы Сын Божы, Збаўца ўсяго чалавецтва. Сьмерць Ягонае на Крыжы ёсьць ахвярнаю сьмерцю дзеля нашага збаўленьня. Хрыстос быў пасланы ў сьвет Богам Бацькам дзеля таго, каб выратаваць людзей ад пакараньня за грахі і вызваліць іх ад улады граху: "Бог Сваю любоў да нас даказвае тым, што Хрыстос памёр за нас, калі мы былі яшчэ грэшнікамі" (Рым. 5, 8).

Ісус Хрыстос даў жыцьцё вечнае і стаўся Збавіцелем усяму чалавецтву, таму кожны чалавек павінен даць Яму першае месца ў сваім сэрцы. Хрыстос чакае ад сваіх пасьлядоўнікаў любові і жыцьця паводле Ягонае волі. Ён гаварыў, як трэба ісьці за Ім: "Калі хто хоча ісьці за Мною, няхай адрачэцца ад самога сябе, няхай штодня возьме крыж свой і ідзе за Мною, бо хто хоча душу сваю зьберагчы, загубіць яе, а хто загубіць душу сваю дзеля Мяне, той зьберажэ яе" (Лук. 9, 23-24). І мы мусім несьці свой крыж дзеля Таго, хто памёр за нас і ўваскрос, даўшы нам надзею жыцьця вечнага.

Крыж зьбірае ў сабе сілу Бога. Вертыкаль Крыжа – гэты зыход Бога зь Неба на Зямлю, а гарызанталь – гэта шырыня Боскае любові да людзей. Толькі моц Крыжа можа ўтрымоўваць вышыні розуму, глыбіні сэрца і бязьмежнасьць волі. Адзінства з Крыжам дае цэласнасьць усприняцьця жыцьця, гісторыі, Сусьвету, чалавека. Шлях Крыжа вядзе да магутнасьці праз пакуты, да Выраю праз пекла, да Сьвятла праз цемру. І іншага шляху няма.



Знакі крыжа на блюдах цэнтральна-эўрапейскае лінейнае керамікі. Кан. 5 - пач. 4 тыс. да н.э. Білані і іншыя паселішчы (Чэха-Славаччына)



Вялесавы знак крыжа; знак купальскага сонца, ці Пяруновы знак крыжа; знак вясновага сонца, або падвойнае сонца; знак каляднага сонца; крыж Ярылы; знак крыжа "спарыш"; крыж гамаваны, або свастыка; крыж сонечнага кола



Візантыйскі (Грэцкі) крыж; Лацінскі (Рымскі) крыж; крыж сьв. Антонія; крыж сьв. ап. Пятра; крыж сьв. ап. Андрэя; Візантыйска-Андрэеўскі крыж; Эгіпецкі, або Копцкі крыж; крыж сьв. Канстанціна, так званы "Лябарум"; варыянт Лябарума



крыж сьв. Ефрасіньні (Беларускі), ці Архібіскупскі; крыж на Рагвалодавым камені (XII ст.); Папскі крыж; Кіеўскі крыж; Рускія крыжы; крыж сьв. Параскевы Полацкае, або Кротны; Ерузалімскі крыж; рыцарскі, або крыж Янітаў

Выявы крыжоў падаюцца паводле энцыклапедыі "Мифы народов мира" (М., 1982) і часопіса "Божым шляхам" (Парыж, № 7-8, 1950).

МІХАЛІНА

# ДАЗВОЛЬ ПРЫЙСЬЦІ

*Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы, Ты сказаў: Я ёсьць шлях. Ня будзе добраю ніводная мая дарога безь Цябе, і ніводная мэта не наблізіцца безь Цябе. Прыпадаю да Цябе, Хрысьце Божа, і малю Цябе сьцішана: вядзі мяне, Збаўца, скрозь усе цяжкасьці да мэты мае, вядзі мяне, Збаўца, празь цемру да сьвятла праўды Твае, не пакінь мяне, Хрысьце, на ўсім шляху маім. Ты бо ёсьць адзіны Настаўнік мой і найясьнейшая зорка жыцьця майго, і Табе належыць слава і пакланеньне цяпер і заўсёды і на векі вякоў. Амін.*

І быў шлях. І быў дождж. Бясконцы шлях па любай Тваёй мокрай зямлі. Ты ішла ўдзень і ўночы, хістаючыся ад стомы, і вагнём палалі здарожаныя ногі, і часам толькі малітва была Табе за сьняданак, але ў душы Тваёй было сьветла. Божа, як любіла Ты гэтую зямлю! І Ты ведала: гэты Твой шлях па ёй – апошні. І ўсё гучалі ў Табе, бы музыка, разьвітальныя – апошнія! – словы палачанаў: не сыходзь, матухна, не пакідай нас, сірых! – ды Твой адказ: не пакідаю вас, але іду маліцца за вас. Цябе паклікала Сьвятая Зямля, Ерусалім – сьведка пакутаў ды славы Госпадавай, сьветлы горад, намолены тысячамі пілігрымаў. Паклікала, каб забраць назаўсёды, каб далучыць да нябёснае свае хвалы Тваю чысьціню і сьвятасьць. І Ты пайшла. А людзі, што глядзелі Табе ўсьлед, ведалі: ад іх сыходзіць Сьвятая...

...Цяпер я іду да Цябе..



Дарога. Дождж. Першая за стагодзьдзе пілігрымка на Беларусі – у Полацак, да сьвятое Сафійкі, да Цябе. Мы ідзем, каб укленчыць зь ціхаю малітваю перад Тваёю труной у збудаванай Табою царкоўцы, што носіць цяпер Тваё імя. Спаса-Ефрасіньнеўская.

Першы супынак. Ворша. Тут скончыўся ў 1910 годзе водны шлях з Кіева, якім везьлі Твае мошчы на радзіму. Праз шэсьць з паловаю стагодзьдзяў цела Тваё вярнулася на сваю зямлю, якую душа Твая не пакідала ніколі. Тады,у 1910, у Воршы Цябе сустракалі натоўпы людзей. Сустракалі, як найвялікшую сваю сьвятую. І думалі: можа цяпер, калі Ты будзеш з намі, скончацца беды, разьвеюцца чорныя хмары над Беларусьсю? І прасілі: *сьвятая Ефрасіньня, апякунка й заступніца нашая, малі Бога за нас грэшных!* І панесьлі Цябе адсюль пешкі да самага Полацка.

Мокрай вясновай Воршы няма аніякае справы да сьвятара ды двох дзесяткаў пілігрымаў, што сышліся разам з розных куткоў Беларусі, каб ісьці да Цябе. Толькі прыбілася да нас чорнае кацяня, малое, худзенькае – шыйка зь мезенец, – жаўтавокае. І мы бяром яго з сабою. Хай ніхто ня будзе абыйдзены дабрынёю на шляху да Цябе. Кот Пілігрым са смакам паеў усё, што яму прапанавалі і спакойна засоп пад курткай: дарога наперадзе немалая.

На вуліцы Караткевіча пакланіліся памяці гэтага нястомнага пілігрыма й песьняра зямлі Божае, такога ж, як і Ты, прагнага да ведаў і прыгажосьці і такога ж радасна-шчодрага сэрцам. Слаўныя людзі нараджаюцца ў краю Тваім, Табой асьвечаным. Дзякуй Табе і за іх.

Дождж ператварыўся ў залеву, усе парасоны й капюшоны імгненна згубілі сэнс. І мы не рызыкнулі ісьці на месца Аршанскае бітвы, дзе меліся сьвяціць крыж-помнік і служыць імшу. Схаваліся ў дом. Ці спыніла б непагадзь Цябе?

У маленькім пакойчыку змоклыя падарожнікі. Стаўлю Твой абразок, запальваю тонкую сьвечку – кволы жывы вагеньчык, што расьсьвятляе цемру і грэе далоні. Ты жыцьцём сваім расьсьвятляла і грэла душы чалавечыя на гэтай зямлі. Разважаю ўголас пра Цябе, пра жыцьцё Тваё дзеля нас і пра нас, Тваіх спадчыньнікаў. Ці вартыя мы Цябе, ці гатовыя прыйсьці да Твае труны, ці здолеем ачысьціць сэрцы нашыя? І мы вучымся маліцца да Цябе: *прасьвятлі наш розум ды ўмацуй душы...*

Старадаўны Віцебск. Зруйнаваны, перайначаны, занядбаны. Велічны, сапраўдны ды прыгожы. Тут у музэі ў 20-я – 30-я гады знаходзіліся – о людзкое вар'яцтва! – Твае мошчы. Іх вынесьлі з кляштара, завезьлі на выставу ў Маскву, а потым аддалі ў музэй. І толькі ў вайну вярнуліся яны ў Полацак. Тады ж зьнік Твой славуты шасьцікутны крыж, дзіва прыгажосьці, што стаўся сымбалем Беларусі. А Ты пісала на ім: да неизнесеться из манастыря...

Уздымаемся на Усьпенскую гару. Тут у 1623 годзе разьюшаны натоўп забіў яшчэ аднаго сына Тваё краіны, яшчэ аднаго волата духу – Іязафата Кунцэвіча, архібіскупа Полацкага. Сьвяты пакутнік Іязафат... Мы стаім над стромаю, адкуль падала ў ваду цела забітага і дзе летась нам так і не дазволілі паставіць асьвячоны крыж Пакутнікам Беларусі. Нягучна сьпяваем старажытны псальм: О Язафаце, у Літве і ў Кароне мы Цябе клічам, магутны патроне. А я зноў думаю пра Цябе: якія розныя лёсы ў беларускіх сьвятых...

А потым – чароўныя ўзьнёслыя гукі сьвятое Літургіі, якія адсоўваюць тлум і клопаты сьвету далёка-далёка і запаўняюць душу сьвятлом і

Малюнак Алены Ткачовай

любоўю. Увечары ізноў запальваю сьвечачку перад Тваім абразом. І мы сядаем вакол, пабраўшыся за рукі, думаем пра Цябе і разам сьпяваем хвалу Госпаду – мы ўсе Ягоныя дзеці і ўсе – нашчадкі Твае. *Памажы нам, справядлівая, у жыцьці нашым...*

Вось яна – Сафея бялюткая. На высокай гары, уся празрыстая, бы з аблокаў. Яе будаваў Твой дзед, Усяслаў Чарадзей, князь Полацкі. Тут была Ты, тут быў Іязафат. Вакол яе працягваюцца міжканфэсійныя спрэчкі, а яна стаіць на гары ўся ў аблоках, вышэйшая за ўсё. І чакае.

Пасьля малебну пад Сафійкаю рушым хросным ходам да Спаса-Ефрасіньнеўскага кляштару. Твайго кляштару. Да Цябе. Мы ідзем да Цябе, Твае дзеці. Я іду да Цябе. Прымі нас, матухна. Узгадваю, як летась мы ўдзьвёх з Каралінаю вымылі ў Тваёй царкоўцы ўсю падлогу і потым схіліліся перад Тваёю труной, і кленчылі перад ёй доўга-доўга і маліліся як перад сконам. І законьніца дазволіла нам падняцца ў Тваю келейку, Твой галубец, і келейку Тваёй сястры Еўпраксеі. І дзіўнае пачуцьцё далучанасьці нахлынула на мяне. І я зноў дзякую Табе за гэта.

Кляштарныя муры. Наш натоўп (а ён значна вырас) з харугвамі уваходзіць на тэрыторыю кляштару. Сьцішана іду да Твае царквы...

На дзьвярох вялізарная засаўка. Каля царквы на лаве сядзіць стары сьвятар і законьніца. Не, няможна, – кажуць яны. Мы ж пілігрымы, мы да Яе ішлі! Сьвятар спакойна адказвае: вы не з пакораю прыйшлі, а з гардыняю. Вяртайцеся. О Ефрасіньня!

І быў боль.

Кленчу на прыступках царквы. Пакутліва спрабую скласьці малітву. Дрыжаць, салоныя, вусны. Жывы ўва мне толькі боль. О Ефрасіньня... Матухна, заступніца добрая, сьветлая, не прыняла Ты нас, не пусьціла, няўртых дзяцей Тваіх, – прымі тады малітвы нашыя, ня ўзгардзь любоўю нашаю, наталі нас, грэшных, сваёю сьвятасьцю. О Ефрасіньня, не пакінь мяне, народжаную ў дзень Тваёй сьмерці у жыцьці маім ды прывядзі мяне яшчэ калі-небудзь сюды, у Тваю сьвятыню.

Урэшце разумею, што кажаш Ты да мяне: не там Ты, дзе мошчы Твае, а дзе жывыя душы й сэрцы шчырыя. Па ўсёй зямлі Тваёй чыста.

Уражаная, падымаюся з каленаў. Але дазволь, матухна, прыйсьці яшчэ раз сюды да Цябе. Дазволь, калі можна...

Вяртаемся да Сафеі на літургію. І молімся разам.

*Сьвятая Ефрасіньня, апякунка й заступніца нашая, скрозь вякі жывіш Ты гэтую зямлю сваёю сьвятасьцю ды расьсейваеш змрок над ёю праменьнямі славы Тваёй. Прымі, заступніца, малітвы шчырыя, агарні нас бязьмежнаю дабрынёю Тваёю, наталі нас Тваёю сьвятасьцю й чысьцінёю, прасьвятлі наш розум ды ўмацуй душы, памажы нам, справядлівая, у жыцьці нашым, каб вечная хвала Богу ўзьнімалася з краіны Тваёй. Сьвятая Ефрасіньня, найпершая патронка Беларусі, малі Бога за нас грэшных. Амін.*



*Працяг са стар. 19*

# У ПОШУКАХ КАЛЕНДАРУ – У ПОШУКАХ ГАРМОНІІ

ходнасьцю. Юлій Цэзар запрасіў для распрацоўкі новай сыстэмы александрыйца Сазігэна. У 46 годзе да нараджэньня Хрыстовага рэформа была праведзена, працяглаcьць году дасягнула 365 1/4 сутак, што ў большай ступені адпавядала сярэдняму трапічнаму году. Каляндар атрымаў імя вялікага імпэратара. Нікейскі Усяленскі сабор 325 г. прызнаў юльлянскі каляндар абавязковым для ўсяго хрысьціянскага сьвету. Аднак новы каляндар яшчэ доўга ўваходзіў у практыку эўрапейскіх краінаў, перш чым стаў календаром эўрапейскага сярэднявечча да канца XYI ст.

Але ў гэтым календары была заведзеная спружына недакладнасьці – памылка ў памерах адных сутак назапашвалася на працягу 128 гадоў. У выніку тэрміны сапраўднага вясновага раўнадзенства перасталі супадаць з каляндарнымі. А гэта мела прынцыповае значэньне для Вялікодных разьлікаў. Прапановы больш дасканалых сыстэмаў рабіліся ўжо ў антычныя часы (Гіппарх). Эўрапейскае сярэднявечча ведала варыянты выйсьця з крызы як заходнія (XIII ст., Кастылія, табліцы часоў Альфонса X Мудрага), так і ўсходнія (Візантыя, XIY ст, навукоўцы Нікіфар Грыгора, Матфей Уластыр, Аргір). У XY ст. пытаньнямі календару заняўся Сьвяты прастол. Але толькі ў XYI ст., калі разыходжаньне дасягнула ўжо 10 дзён, пры папу Рыгоры XIII узьнікла магчымасьць ажыцьцявіць вялікую рэформу. Была створана камісыя, якая зь некалькіх праектаў абрала прапановы італьянскага матэматыка і лекара з Перуджы Луіджы Лілія.

Дэкрэтам Панціфіка ад 24 лютага 1582 г. абвяшчалася, што пасьля 5 кастрычніка 1582 г. павінна ісьці 15 кастрычніка, лік перасоўваўся на 10 дзён уперад, аднаўляліся

"згубленыя" у юльлянскім календары 10 дзён. Даўжыня году паводле грыгарыянскага календару вызначалася ў 365 дзён 5 гадзін 49 хвілін 16 сэкундаў. У выніку Вялікдзень і іншыя сьвяты былі аднесеныя да часу, зацьверджанага Нікейскім саборам.

Бог стварыў Сонца і Зямлю, злучыўшы іх у адзіную сыстэму. Бог даў Зямлі год, які вызначаецца цыклямі Сонца, таму трэба прыслухоўвацца да Сонца, ісьці разам зь ім.

Акрамя таго, папа разьлічваў, што прыняцьце новага календару ня толькі каталікамі, але й праваслаўнымі будзе спрыяць паразуменьню паміж імі і ў іншых пытаньнях.

На новы каляндар адразу станоўча адгукнуліся Гішпанія, Партугалія, Францыя, частка Італіі, Рэч Паспалітая (1582), імпэратар і каталіцкія княствы Германіі (1584). Пратэстанты, нягледзячы на ўласьцівы ім рацыяналізм, не прынялі спачатку рэформы. І прычынай таму былі палітычныя супярэчнасьці: "Лепей разыйсьціся з Сонцам, чым сыйсьціся з папам". Пратэстанцкія гарады й княствы Германіі да 1700 г. трымаліся старога стылю, а прынцып вылічэньня Вялікдня паводле грыгарыянскага календару прынялі толькі ў 1775 г., дый тое пасьля некалькіх непасьпяховых спробаў уласных рэформаў. У Венгрыі юльлянскі каляндар быў шырока распаўсюджаны яшчэ ў першых дзесяцігодзьдзях XYII ст., нягледзячы на прыняцьце Дзяржаўным сходам у 1588 г. пастановы пра пераход да новага стылю. У 1700 г. да грыгарыянскага календару далучыліся лютэранскія Данія ды Нарвегія, у 1751 г. – Англія, у 1753 г. – Швецыя ды Фінляндыя. У той жа час былій такія пратэстанцкія краіны, для якіх пераход да новага летазьлічэньня быў больш істотны, чым адрозьненьне ад Сьвятога прастолу. Гэта былі Галяндыя (1582) і Швейцарыя (1584). Шэраг краінаў перайшлі да грыгарыянскага календару толькі ў 20 ст. (Балгарыя, Сэрбія, Румынія, Грэцыя, Турцыя, Егіпет, Савецкая Расія).

Праваслаўны сьвет у XYI ст. адмоўна паставіўся да новаўвядзеньня. Яшчэ ў траўні 1582 г. пытаньне прыняцьця новага календару абмяркоўвалася Канстанцінопальскім патрыярхам Ераміям і папскім пасланцам венецыянцам Лівіем Чэльліні. Патрыярх спачатку ня прыняў довадаў пасланца і толькі пасьля таго, як Чэльліні адзначыў, што новы каляндар яшчэ ня ўведзены, заняў больш спрыяльную да папы пазыцыю. Узьнікла магчымасьць пагаджэньня. Але патрыярх зноў перадумаў – пра гэта сьведчыць ліст да князя Канстанціна Астрожскага ад 20 лістапада 1582 г., у якім сам Ерамія і Александрыйскі патрыярх Сыльвестр выступалі супраць каляндарнай рэформы і заклікалі князя, а таксама ўвесь праваслаўны клер Рэчы Паспалітай прытрымліваца юльлянскага календару. Усё ж у 1583г. Ерамія абяцаў падрабязна разгледзець пытаньне, але, маўляў, для гэтага яму спатрэбіцца каля двух гадоў: неабходна перамовіцца з падданымі ў Малдавіі, Валахіі, Рэчы Паспалітай, Масковіі. У жніўні 1583 г. патрыярх адаслаў у Рым добразычлівы ліст, дзе выказаў задавальненьне з прычыны стварэньня папам Грэцкай калегіі, а ўвосені таго ж году пад кіраўніцтвам Ераміі адбыўся сабор, які адхіліў каляндарную рэформу. Падобна, што ваганьні Канстанцінопальскага патрыярха былі выкліканы нестабільнасьцю ягонага становішча ў сталіцы Асманскай імпэрыі, якая ні ў якім разе не жадала дапусьціць збліжэньня хрысьціянаў. І сапраўды, у красавіку 1584 г. патрыярх Ерамія быў арыштаваны і сасланы на выспу Радос за тайную сувязь з Рымам.

Між тым, Рэч Паспалітая была ў ліку тых эўрапейскіх дзяржаваў, што адразу адгукнуліся на заклік папы правесьці каляндарную рэформу. У жніўні 1582 г. папскі нунцый азнаёміў караля і саноўнікаў з атрыманымі з Рыму копіямі новага календару. Стэфан Баторый у тым жа 1582 г. падпісаў універсал аб увядзеньні новага календару па ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Але ўжо досыць хутка праявіліся адмоўныя адносіны пратэстантаў і праваслаўных. У сваёй справаздачы нунцый выказаў больш аптымізму адносна праваслаўных, чым пратэстантаў, і пісаў, што пытаньне павінна быць узгоднена з Канстанцінопальскім патрыярхам. 1583 г. прынёс новае абвастрэньне праблемы. 9 студзеня 1584 г. кароль загадвае ўсім праваслаўным Рэчы Паспалітае прытрымліваца грыгарыянскага календару і адзначаць усе каталіцкія сьвяты. Але падзеі патрабавалі большай дакладнасьці ў фармулёўках. Досыць хутка ўрад краіны зразумеў гэта, і ўжо 21 студзеня 1584 г. Стэфан Баторый падпісвае новы універсал, дзе тлумачыць, што ўвядзеньнем новага календару ён ня меў на ўвазе забарону праваслаўных набажэнстваў паводле старога стылю: "Про то вольно есть и мает быти кождому набоженства и веры своеи уживати, свята святии и обходити, а за тое они некоторое отрудности, пренагабанья, школы и грабежов терпети не мают: кгдыж люде Греческого законудо той поправы календарря нового, без призволенья патриарха своего, кгвалтом примушаны быти не мают". Гэтыя захады стабілізавалі сытуацыю, што і адлюстравалася ў дамоўленасьці паміж князем Астрожскім і нунцыем Баланьетта.

Але вугольле супярэчнасьцяў яшчэ тлела. Князь Крыштаф Радзівіл у 1599 г. паведамляў канцлеру Льву Сапегу пра ўзьнікненьне пэўных складанасьцяў у Полацку, калі лентвойт патрабаваў ад жыхароў магдэбургскага места выкананьня каралеўскага універсалу, забараняючы працу ў сьвяты паводле грыгарыянскага календару. 20 ліпеня 1599 г. канцлер удакладніў, што некаторыя праваслаўныя мяшчане ня толькі адмаўляліся выконваць прадпісаньні лентвойта, але ў каталіцкія сьвяты гандлявалі яшчэ з большым імпэтам з самае раніцы, а на папярэджаньні лентвойта пагражалі забіць яго камянямі. У рэшце рэшт супрацьстаяньне вылілася ў скрайныя формы і, "сабраўшыйся натоўпамі, дакладна непрыяцель з трубамі, бубнамі, нападалі і грамілі дамы шляхетскія". Для разрашэньня полацкага канфлікту спатрэбілася ўмяшальніцтва караля.

Згода ў Вялікім княстве была знойдзеная і ў буйных гарадох, у тым ліку і ў сталіцы – Вільне, дзе ўсталяваўся парадак, пры якім розныя канфэсіі здолелі паважаць сьвяты іншых. Улады прадпісалі і каталікам абодвух абрадаў не гандляваць і не працаваць у праваслаўныя сьвяты, "таму што (гэта) ня толькі веры датычыцца, але яшчэ больш грамадзкага сьвецкага парадку". Дадзенае правіла ў кожным горадзе трымалася ў залежнасьці ад наяўнасьці ды колькасьці праваслаўных у канкрэтным месьце.

На Берасьцейскім саборы 1596 г. было вырашана, што Грэка-каталіцтва прыме грыгарыянскі каляндар. І быў выпрацаваны досыць гнуткі падыход – у розных епархіях каляндар уводзіўся ў розныя тэрміны, зьвярталася ўвага на спэцыфічныя ўмовы кожнага біскупства.

Праз першапачатковую насьцярожанасьць, а часам і непаразуменьні грыгарыянскі каляндар стаўся календаром пераважнай большасьці насельніцтва Беларусі, а юльлянскага часазьлічэньня прытрымліваліся ў XYIII ст. адно праваслаўныя – каля 8% насельніцтва.

Інакш адбылося ў Маскоўскай дзяржаве. Там адразу не прынялі багасл оўскія і астранамічныя доказы. Але час ішоў, і ў XX ст. разыходжаньне склала 13 дзён. Расейскія навуковыя колы яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. прапаноўвалі рэформу, але гэта выклікала пратэст Сыноду. Нешта падобнае адбылося і ўпачатку XX ст. Адмянілі юльлянскі каляндар ужо ў Савецкай Расіі. На думку сучаснага беларускага гісторыка з Варшавы доктара Ю.Туронка, Расейская Праваслаўная Царква не прыняла рэформы, прадэманстраваўшы сваю апазыцыю ўраду Леніна. Паўплываў у дадзенай сытуацыі і кансэрватызм РПЦ. Той добры кансэрватызм, што дазваляе ў экстрэмальных умовах выжыць, данесьці свае ідэі да нашчадкаў. І хто яго ведае, магчыма ўсё выглядала бы інакш, калі рэформу ў Расіі рыхтаваў бы імпэрскі ўрад. РПЦ ж захавала традыцыі юльлянскага календару да нашых дзён.

Кожны народ і кожная канфэсыя, каб быць жыцьцяздольнымі, павінны абіраць свой шлях, свае пункты адліку, сваю сыстэму каардынатаў. І мы павінны найперш прыслухоўвацца адзін да аднога, паважаць выбар суразмоўцы, ды памятаць сваю адметнасьць.



*Малюнак Таццяны Арыставай-Якшэвіч*

# ВЕСТКІ



### У КАСЬЦЁЛЕ СЬВЯТОГА РОХА

Увесну ўтварылася беларуская Рыма-Каталіцкая парафія, якая цяпер арэндуе (да поўнае перадачы) касьцёл Сьвятое Тройцы на Залатой Горцы, вядомы менчукам пад назваю касьцёла сьв. Роха, бо там калісьці знаходзілася цудатворная скульптура гэтага сьвятога. Ксёндз Міхал Сапель штодня адпраўляе тут набажэнствы: а 8 гадзіне ў будзённыя дні (апроч панядзелка), а 9 гадзіне ў нядзелі. Добрыя і разумныя казаньні а. Міхала, цудоўныя сьпевы (на лаціне і па-беларуску) з арганам і шчырая сардэчная атмасфэра, што пануе ў храме, прывабліваюць сюды ўсё больш і больш вернікаў. Паміж гэтай парафіяй і каталікамі ўсходняга абраду ўсталяваліся найлепшыя адносіны.

### АДНАВІЛАСЯ БЕЛАРУСКАЯ ХРЫСЬЦІЯНСКА-ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ЗЛУЧНАСЬЦЬ

Пасьля болей чым паўсотгадовае забароны аднавілася Беларуская Хрысьціянска-Дэмакратычная Злучнасьць, зьнішчаная ў 1939 годзе ў Вільні. Устаноўчая канферэнцыя ўзноўленае Злучнасьці адбылася 1-га чэрвеня, сёлета, у Менску. На ёй былі прынятыя Праграма і Статут арганізацыі, выбраныя Рада і Управа, а таксама савет сустаршыняў ад розных канфэсіяў у наступным складзе: Пётра Сілка (сустаршыня-каардынатар), Міхал Арэшкаў, Фэлікс Янушкевіч, Эрнст Сабіла дый Ірына Багдановіч. Аднавілася і друкаванае выданьне Злучнасьці – газэта "Беларуская крыніца".

Мэты і задачы арганізацыі – на грунце хрысьціянскіх запаветаў і дэмакратычных прынцыпаў, выпрацаванай сусьветнай супольнасьцю народаў на працягу стагодзьдзяў спрыяць духоўнаму і маральнаму аздараўленьню нашага грамадзтва. Палітычны ідэал – суверэнная, хрысьціянскі-сумоўная Беларусь – эўрапейская дзяржава, у якой гарантаваныя правы і свабоды чалавека, ёсьць усе магчымасьці для творчасьці і разьвіцьця таленту асобы. Шлях зьдзяйсьненьня гэтага БХДЗ бачыць у гуртаваньні кансалідацыйных сіл грамадзтва на аснове згоды, кампрамісаў, адмаўленьня ўсякага насільля.

**Ірына БАГДАНОВІЧ**

### БІБЛІЙНАЕ ТАВАРЫСТВА НА БЕЛАРУСІ

У Менску ўтворана Біблійнае таварыства, якое мае на мэце, па-першае, выданьне, распаўсюджаньне і прапаганду Сьвятога Пісаньня, у тым ліку і дзіцячых Бібліяў, па-другое, навуковую працу па вывучэньні тэкстаў Сьвятога Пісаньня для карэкцыі і ўдакладненьня існуючых перакладаў яго на беларускую мову і для стварэньня новых перакладаў. Аналагічныя таварыствы існуюць ад канца XYIII ст. і цяпер ёсьць ува ўсіх хрысьціянскіх краінах сьвету. У Лёндане знаходзіцца Міжнародны цэнтр Біблійных таварыстваў. Прэзідэнт Менскага Біблійнага таварыства – Герман Родаў, віцэ-прэзідэнт – Васіль Сёмуха, выканаўчы дырэктар – Якаў Патупчык. У прэзідыум таварыства ўвайшлі прадстаўнікі беларускага сьвятарства і інтэлігенцыі: а.а. Георгі Латушка, Ян Матусэвіч, Міхал Сапель, Эрнст Сабіла; д-р Уладзімір Конан, д-р Анатоль Грыцкевіч, Ірына Дубянецкая.

Выданьні Біблійнага таварыства можна будзе набыць у рэдакцыі часопіса.




беларускіх Рыма-Каталіцкіх біскупаў:

Архібіскупа Мітрапаліта Менска-Магілёўскага
і Апостальскага Адміністратара Пінскага
КАЗІМІРА СЬВЁНТАКА
і
Біскупа Гарадзенскага АЛЯКСАНДРА КАШКЕВІЧА

з намінацыяй і кансакрацыяй;

Вярхоўнага Архібіскупа
Украінскае Грэка-Каталіцкае Царквы
Кардынала МІРАСЛАВА ІВАНА
ЛЮБАЧЫЎСКАГА
зь вяртаньнем на Бацькаўшчыну

і шчыра зычым ім памыснае архіпастырскае працы
на карысьць Царквы і свайго народу.

### ВІЛЬНЯ

19 чэрвеня гэтага году летувіскія ўлады перадалі вернікам Грэка-Каталіцкага абраду царкву Сьвятое Тройцы старажытнага Сьвята-Троіцкага кляштару, збудаваную ў гонар трох першых віленскіх пакутнікаў, – буйнейшы цэнтр Уніяцтва ў Вялікім княстве Літоўскім ад пачатку XYII ст.

Мы даўно з надзеяю чакалі гэтае падзеі і цяпер шчыра радуемся разам з віленскімі украінцамі (бо гэта менавіта яны адстаялі сьвятыню).

Увесну дзеля перамоваў з уладамі Вільню наведаў біскуп Івана-Франкоўскі Сафроні. На працягу некалькіх месяцаў у царкву прыязджалі служыць сьвятары са Львова. Але лёс сьвятыні заставаўся нявызначаным, і цудоўны старажытны будынак царквы паступова прыходзіў у заняпад.

Цяпер, з Божае ласкі, царква належыць вернікам і, можа, неўзабаве адновіцца ў былой сваёй прыгажосьці. Службы праходзяць пакуль што ў правай бакавой капліцы – з-за кепскага стану ўсяго будынку. Служаць у царкве айцы базыльляне са Львова: айцец Паўло і брат Валадзімір. Імша штодня, а 9 гадзіне ў будзённыя дні і аб 11 гадзіне ў нядзелі й сьвяты.

Інфармацыю перадаў
**Аляксандр ЛІСОЎСКІ**

Што ж тычыцца віленскіх беларусаў-каталікоў, то ў іх, нягледзячы на шматлікія намаганьні, так і не склалася ніводнае царкоўнае грамады. Ну што ж, у іх яшчэ ўсё наперадзе. Дай ім Бог...

### ЧАРНІГАЎ

У чарнігаўскіх грэка-каталікоў сітуацыя з храмамі ня лепшая, чым на Беларусі. Вернікі падалі ў гарвыканкам заяву з просьбаю перадаць ім Усьпенскі сабор. З аналагічнай заявай зьвярнулася й грамада Расейскае Праваслаўнае Царквы, чые вернікі ўжо маюць у горадзе храмы, у тым ліку – цэлы комплекс Елецкага кляштару. Улады, павагаўшыся, вырашылі, што Усьпенскі сабор ёсьць помнікам архітэктуры, і з гэтае прычыны яго ня варта перадаваць нікому. У складаным становішчы з храмамі пакуль і вернікі Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Сама ж Грэка-Каталіцкая грамада Чарнігава атрымала зь Нямеччыны харчовую дапамогу для чарнігаўскіх хворых і пацярпелых ад Чарнобыльскае катастрофы. Вернікі перадалі дапамогу у гарадзкі радзільнік, у дзіцячую лякарню, абласную лякарню ды яшчэ трыццаці інвалідам і пачалі наведваць хворых, апекавацца імі. Цяпер і хворыя, і лекары просяць прыходзіць яшчэ.

Вось так. Грэка-Каталіцкая грамада яшчэ ня мае памяшканьня для храму – вернікі збудоўваюць храм у душах чалавечых.

Інфармацыю перадаў
**Сяргей Патапенка**



***Беларуская хрысьціянская моладзь патроху пачынае ўключацца ў сусьветны экуменічны рух. Навошта? І што гэта, увогуле, такое? Што дае, чаму вучыць нашых дзяўчатаў і хлопцаў гэты рух?***

***Вось пра гэта і распавядаюць чатыры розныя чалавекі: брат Мірэк - сябар экуменічнага брацтва ў Тэзэ, адзін з арганізатараў усеэўрапейскіх маладзёжных сустрэчаў; Воладзь Зварыч з Украіны – старшыня Камітэту украінскае каталіцкае моладзі, чалавек, які на мінулыя Каляды дапамог беларускім грэка-католікам упершыню выехаць на экуменічную сустрэчу моладзі ў Празе; Караліна Мацкевіч і Сяржук Вітушка - сябры рэдакцыі "Уніі", удзельнікі праскае сустрэчы.***

# ПРА ЭКУМЕНІЗМ





*Брат* МІРЭК

## *ТЭЗЭ – ЗНАК АДЗІНСТВА ЦАРКВЫ Ў СЬВЕЦЕ*



*...Усё пачалося ў час другое сусьветнае вайны, калі брат Рожэ шукаў месца, дзе магло б разьмясьціцца брацтва, утворанае на ідэі еднасьці. У душу брата Рожэ запалі словы ягонай бабулі: "Вайна будзе цягнуцца так доўга, пакуль ня будзе прымірэньня паміж хрысьціянамі". І брат Рожэ адчуў моцную неабходнасьць заснаваньня такога брацтва якое б складалася з прадстаўнікоў розных Цэркваў з розных краінаў. Месца ён знайшоў у Францыі, у маленькай вёсачцы Тэзэ, што пад Ліонам.*

*Цяпер у Тэзэ разам жывуць, разам моляцца, разам працуюць каля ста братоў Каталіцкае і розных Пратэстанцкіх Цэркваў з дваццаці пяці краінаў сьвету. Гэта знак адзінства Хрыстовае Царквы ў сьвеце.*

*Акрамя братоў у Тэзэ жыве моладзь, што прыязджае з розных краінаў. Яны жывуць з намі часам па два-тры гады. Ды яшчэ шмат народу прыязджае кожны тыдзень на міжкантынентальныя сустрэчы. Праграма такіх сустрэчаў вельмі простая, і любы чалавек, незалежна ад таго, зь якое краіны, зь якое культуры, Царквы ён прыехаў, можа прыняць удзел у гэтай сустрэчы. Сэрцам Тэзэ зьяўляюцца агульныя малітвы тры разы на дзень: раніцаю, па абедзе і ўвечары. Раніцаю гэта ўводзіны ў Біблію, якія робіць адзін з братоў. Па абедзе сустрэчы маленькімі групамі па 2-3 чалавекі з розных краінаў, калі можна сумовіцца. Заўсёды ёсьць агульная тэма для размовы на такіх сустрэчах. А пятай гадзіне за гарбатай людзі з розных кантынентаў распавядаюць пра сваю Царкву, пра свае нацыянальныя традыцыі. Штотыдзень у Тэзэ прыязджае пяць-шэсьць тысячаў маладых людзей.*

*Аднойчы моладзь з Рыму запрасіла братоў у свой горад. Браты прыехалі. Але Рым – вялікі горад, і пяцьдзесят або сто братоў не маглі сустрэцца з усімі, хто гэтага жадаў. І браты прыехалі налета на Каляды разам з трыццацьцю тысячамі маладых людзей з усе~~й Э~~ўропы, і тады ў кожнага быў свой госьць. Так пачаліся сустрэчы ў вялікіх гарадох. Яны былі ў Лондане, Парыжы, Барселоне, Кёльне, Вроцлаве. Апошняя такая сустрэча была наладжаная на Каляды 1990-1991г. у Празе...*

*Воладзь* ЗВАРЫЧ

## *"КАБ ВЫСЛУХАЦЬ УСІХ І ДАПАМАГЧЫ ПРЫМІРЫЦЦА"*



*У аснове экуменічнага руху ляжыць ідэя прымірэньня. Унійная ідэя. Я ў гэтым перакананы.*

*На Украіне пасьля выхаду Грэка-Каталіцкае Царквы з падпольля паўстала пытаньне: навошта мы існуем? Адказам на яго можа быць слова "прымірэньне". Было шмат царкоўных расколаў, цэрквы адыходзілі ад адзінства, зноў і зноў драбіліся... І мы падумалі, што Унія - гэта ідэя прымірэньня.*

*Мы вырашылі стварыць брацтва моладзі дзеля таго, каб размаўляць з моладзьдзю іншых Цэркваў, выслухаць усіх і дапамагчы прымірыцца. Старэйшым людзям цяжка гэта зрабіць, таму што войны паміж канфэсіямі пакінулі шмат крыўдаў, а моладзь не памятае зла і ідзе на прымірэньне. Адрадзіўшыся з попелу, мы арганізавалі Камітэт украінскае каталіцкае моладзі. Але сярод нас ёсьць праваслаўныя, баптысты... Азначэньне моладзі як каталіцкае паходзіць ад слова "кафолія" - "сусьветнасьць". "Кіфа" - гэта камень. Памятаеце: Ты, Пётр, ёсьць камень. І на гэтым каменю Я збудую Царкву Маю, вароты пякельныя не перамогуць яе. Дык вось царква, што стаіць на камені, адзіная, сусьветная – гэта чароўны букет, у якім ёсьць мноства кветак. Кожная кветка – гэта абрад: грэцкі, візантыйскі, візантыйска-славянскі, калхедонскі, копцкі. А чаму букет павінен быць з аднолькавых кветак? Можа быць цудоўная кампазіцыя, якая будзе зачароўваць сьвет. Вось да такое Царквы мы імкнемся. Царквы адзінае, Царквы Хрысьціянскае. Царквы, якая зачароўвае сьвет. Таму мы і прымаем удзел у экуменічным руху яднаньня Хрысьціянскіх Цэркваў, як адзінага цела Хрыстовага.*

*У мінулым годзе наш Камітэт падключыўся да маладзёжнай хрысьціянскай сустрэчы ў Празе. Упершыню з Украіны, Беларусі, Малдовы выехала група каля шасьці соцень чалавек на экуменічную сустрэчу, арганізаваную братамі з Тэзэ. Моладзь розных канфэсіяў, патрапіўшы на гэтую сустрэчу, павінна была адчуць, што ўсе мы належым найперш Хрысту. І ў выніку – прымірэньне!*

Сяржук ВІТУШКА

# ПРАГА



Файна, калі маеш свой дом. Свой родны кут. Але калі-нікалі цябе спакушае дарога. Ты прагнеш новых сустрэчаў, цябе вабяць новыя краявіды. Тады кажаш роднаму дому "бывай!" і выпраўляешся ў дарогу. З Богам ...

На гэты раз выпаў шанец зьезьдзіць у Прагу. Якраз на Каляды. На Каляды, ды ў Прагу, – уяўляеце!

Справа ў тым, што ў Прагу нас запрасілі ня проста так, а на агульнаэўрапейскую сустрэчу хрысьціянскае моладзі. Такія сустрэчы ладзяцца штогод зь ініцыятывы экуменічнага манаскага брацтва Тэзэ. Навошта? Як патлумачыў кіраўнік нашае групы Воладзь Зварыч – гэта каб мы, маладыя вернікі ўсяе Эўропы, маглі там "спілкуватыся" (цудоўнае украінскае слова "спілкуваньне" можна прыблізна перакласьці на беларускую мову двума новымі тэрмінамі – "тусоўка" і, адначасна, "сумоўе"). Дык вось якраз гэтым цэлы тыдзень мы і займаліся.



А "спілкуватыся", тым часам, было з кім. У Прагу прыехала больш за сотню тысяч маладых людзей. Стракаты, гаманлівы, вірлівы натоўп запаланіў сталіцу Чэхаў. Дзіўна было бачыць, як гэтыя людзі зьбіраліся разам і вучыліся агульнай мове – сьцішаным малітвам. А потым, злучыўшы свае сэрцы ў адзінай малітве, людзі з натоўпу пераўтвараліся ў шчырае брацтва.Добра было тады адчуваць, што й ты сам навучыўся гэткай мове, што й ты сам далучыўся да гэтага брацтва.

Фота Алеся Крыштаповіча



А яшчэ на гэтай сустрэчы можна было абсалютна сур'ёзна паразважаць зь якім-небудзь французам ці партугальцам пра пацыфізм ці экалёгію. А можна было з тым жа французам і партугальцам разам выпіць шампанскага, бо, – памятаеце, я казаў – мы ж былі ў Празе якраз на Каляды, на сам Новы Год.

Карацей кажучы, сустрэчаў хапала. Толькі трэба шчыра прызнацца, што не на ўсе заплянаваныя імпрэзы давялося патрапіць, бо вельмі ж хацелася лепей агледзець саму Прагу, сустрэцца менавіта з пражанамі. З гэтых сустрэчаў найлепшыя ўспаміны засталіся пра айца Івана Зьявінца, сьвятара уніяцкае бажніцы сьвятога Клімэнта, адной з самых старажытных у Празе. На ягоную долю выпаў нялёгкі лёс. У Чэхаславаччыне ў 1953 годзе на ўзор Совецкага Саюзу скасавалі Уніяцкую Царкву. Айцец Іван, як і многія іншыя, падпаў пад рэпрэсіі: сядзеў у вязьніцы, працаваў на капальнях. У часы "дубчакаўскай" адлігі ў 1969 годзе людзі дамагліся легалізацыі Грэка-Каталіцкае Царквы. Айцец Іван быў амніставаны, і з таго часу зноў служыць. Гаварыў ён з намі зь вялікай цікавасьцю, быў вельмі ўсьцешаны навінамі пра адраджэньне Уніяцкае Царквы на Беларусі, распа-



*Усяго хапіла ў гэтай вандроўцы. Пра краявіды казаць ня буду. Пра іх, напэўна, лепей раскажуць фотаздымкі Алеся Крыштаповіча. А вось пра новыя сустрэчы ў гэтым падарожжы распавесьці варта.*



вядаў пра духоўныя сэмінарыі, дзе б маглі навучацца нашыя будучыя сьвятары, шчыра дзячыў за калядныя песьні што насьпявалі яму нашыя дзяўчаты.

А яшчэ была адна сустрэча, надзвычай дарагая, з нашай зямлячкай – са спадарыняй Надзеяй Кастэцкай, цяпер ужо нябожчыцай, вечны ёй супакой. Спадарыня Надзея была ці не апошнім прадстаўніком колішняй вялікай беларускай эміграцыі ў Празе. Цяпер ад тае эміграцыі толькі помнікі, бадай, і засталіся. Ідзеш па Альшанскіх могілках, і чытаеш надпісы: прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі Пётра Крэчаўскі, прэзідэнт БНР Васіль Захарка, беларускі сьпявак Міхась Забэйда-Суміцкі... Вось зараз стане недзе яшчэ адзін помнік. А як жа было хораша тады чуць у далёкай Празе сьпеўную беларускую мову ў гасьцінным доме спадарыні Надзеі.

Разам з гэтымі сустрэчамі падчас нашага падарожжа, сустрэчамі, якіх чакалі, якія плянавалі, былі, як заўсёды, неспадзяванкі.

*Караліна МАЦКЕВІЧ*

## *СУЛАДЗЬДЗЕ ДУШАЎ*

*Вясёлая, стракатая, шматмоўная Прага. Сустрэча моладзі – Тэзэ. Натоўпы паўсюль: і а вуліцах, на прыступках палацаў, у храмах; людзі сядзяць на агароджах і дрэвах, скачуць і сьпяваюць, узяўшыся за рукі, у метро і на прыпынках. Напачатку – вострае адчуваньне няўтульнасьці, чужароднасьці тваёй у вясёлым тлуме, які скрозь. Ловіш сябе на раздражненьні – немагчыма засяродзіцца, адчуць горад, сябе ў ім. Толькі значна пазьней да цябе, як дар, прыходзіць разуменьне – і далучэньне.*

*Агульная экуменічная малітва ў намётах. Тысячы людзей пад адной страхою. Падлога, зацягнутая брэзентам, уся ў брудзе: на вуліцы дождж. А на ўмацаваньнях намётаў – абразы і рэдкія трапяткія вагеньчыкі сьвечак. Гаманкі натоўп паціху ўліваецца праз некалькі ўваходаў і асядае – проста на падлогу. Сядаеш і ты. Хтосьці праходзіць паўз цябе, шукаючы месца, – адзін, другі, трэці. Чыесьці чаравікі проста перад вачыма. Пры поўным вонкавым бязладзьдзі нечакана прыходзіць засяроджанасьць.*




**Божа, Ойча наш, Ты ймкнеш нам насустрач, як бацька насустрач блуднаму сыну. Ты праменіш на нас сьвятло Твае прысутнасьці й Твайго дараваньня. Вось дасканалы дар кожнаму з нас – адважыцца дараваць – вось радасьць і дух маленства.**

**Брат Ражэ з Тэзэ**

*Ужо цяпер, на самым пачатку, перастаеш адрозьніваць сяброў і знаёмых вакол ад тых, каго бачыш упершыню – усе разам ствараюць адно жывое цела, часьцінкаю якога ёсьць ты.*

*І раптам прыходзяць першыя гукі – тонкія, высокія, празрыстыя. Алілуя... Чыстыя дзявочыя галасы падхопліваюць простую прыгожую мелодыю хвалы. Алілуя... Сьпеў паўтараецца бясконца. Не заўважаеш сам, як сьпяваеш і ты, і ўсе, хто пабач. Тысячы душаў зьліваюцца ў адным суладзьдзі. Агульнае цела зьнікае – застаецца адзіны дух, што ўзьлятае за гукамі: Алілуя.*

*Сьпеў зьмяняецца на іншы. Словы псальма "Laudate omnes gentes" – "Хваліце, ўсе народы, хваліце Госпада". Сьпяваеш ты, і разам з табою – тысячы і тысячы. Рассоўваюцца і зьнікаюць сьцены намётаў – ты ўжо ня бачыш ні іх, ні людзей, застаецца толькі час, што нясе з сабою мелодыю сьпева. І няма рознасьці моваў і канфэсяў. Ёсьць душы чалавечыя, што ўзносяць хвалу Прадвечнаму.*

*...Хваліце, усе народы...*

...Ідзем па сьвяточнай калядной Празе, нясем сваю калядную зорку. Людзі запыняюць нас ды пытаюцца, адкуль мы. Кажам, што зь Беларусі. У адказ: " А-а-а! Беларусь. Чарнобыль..."

Запыталіся на вуліцы нейкага дзеда, як прайсьці да станцыі мэтро. Ён растлумачыў, нават правёў, паказаў шлях. Даведаўшыся, што мы зь Беларусі, сказаў нам такое: "Беларусь? Ведаю ваш горад Беласток, у вайну блізка там, у Кенігзбергу, мусіў працаваць..." Ня хочацца казаць дзеду, што Беласток даўно ўжо "ня наш", што пасьля вайны Сталін аддаў яго Польшчы, таму дзякуем дзеду і шпацыруем далей.

– Міколка!? Здароў! – гэта мы сустракаем Міколку Раманоўскага, эспэрантыста і філёзафа, а найперш файнага беларускага хлопца. Зь Міколкам ужо сто год ня бачыліся, бо ён студыюе ў Маскве, – і вось дзе давялося спаткацца.

І яшчэ было, вой было, розных сустрэчаў і здарэньняў у нашым падарожжы. Але любая дарога мае пачатак і мае канец. Мусім і мы вяртацца дадому.

... Пакідаем Прагу. Я, па-праўдзе кажучы, ужо быў крыху стаміўся і ад "спілкуваньня", і ад высачэзных праскіх камяніцаў. Чамусьці згадаў звычайны краявід. Рэчка. На беразе жвір. Зачапіўшыся карэньнем за жвір, узрастае вярба. Раптам асэнсоўваю: жвір – жыцьцёвы вір, вярба – вера. У Бога. Усю далейшую дарогу паўтараю, як малітву: ...узрастае вярба...



*Народны псальм*

# Матачка Божая

*Тэкст: "Голас душы", 1926, Вільня*

*Мелодыя: кс.архім. Ф.Абрантовіч, апрац. М.Кулікович-Шчаглоў*

*Ма- та -чка Бо -жа -я, Ма- та -чка До -бра- я,*

*Бе -дны- я дзе -ці, мы клі- чам Ця - бе;*

*Песь -няй па - кор -на -ю моль-бы скла-да - ю -чы,*

*Сэр- цы сва- е ад -да- ем мы Та - бе.*

*Матачка Божая, Матачка Добрая,*
*Бедныя дзеці, мы клічам Цябе;*
*Песьняй пакорнаю мольбы складаючы,*
*Сэрцы свае аддаем мы Табе.*

*Нас, сваіх дзетачак, што ў Цябе просяцца –*
*Матачка Добрая, Ты пашкадуй;*
*Ласкай аджыўчаю Бога Прадвечнага,*
*Матачка Божая, нас абдаруй.*

*Вылеч Ты сэрца нам раны глыбокія,*
*Міласьцяй чыстаю нас запалі,*
*Каб хвала Божая, не жальба вечная,*
*У неба ляцела, ляцела зь зямлі.*

*Сьветам нябесным жа галовы цёмныя,*
*Матачка Божая, Ты асьвяці,*
*Каб мы пазналі ўсе мудрасьць адвечную,*
*Богу служылі тут верна ў жыцьці.*

*Дай-жа нам, дзетачкам, дарогу простую,*
*Сьмерці хвіліну шчасьлівую дай.*
*Вядзі нас, Матачка, зоранька ясная,*
*У хвалу вечну, у цудны рай.*

# ЦАРКВА

15 траўня адбылася вельмі значная для нашага царкоўнага жыцьця падзея: Івана-Франкоўскі біскуп Сафроні Дмітэрка высьвяціў двох беларускіх дыяканаў – Андруся Абламейку і Зьміцера Беленькага. Цяпер беларусы-каталікі ўсходняга абраду маюць трох сьвятароў ды двох дыяканаў, якія стала абслугоўваюць у агульнай колькасьці восем парафіяў.

Царкоўныя грамады ўтвораныя ў Бягомлі, Віцебску, Гародні, Гомлі, Магілёве, Маскве, Менску, Полацку, Старых Дарогах. У Барысаве, Берасьці, Воршы, Маладэчне, Мсьціславе, Ратамцы, Стоўпцах і шмат у якіх іншых гарадох, мястэчках ды вёсках ёсьць паасобныя уніяты або царкоўныя грамады на стадыі фармаваньня. Усё больш людзей па ўсёй Беларусі і за еінымі межамі прымаюць хрост ці бяруць шлюб ва ўсходнім абрадзе. Зьяўляюцца хлопцы, што адчулі сваё сьвятарскае пакліканьне і маюць сур'ёзны намер атрымаць адпаведную адукацыю ды прысьвяціць сваё жыцьцё душпастырскай дзейнасьці.

Пры ўсім гэтым у каталікоў усходняга абраду Беларусі так яшчэ і няма аніводнага храму. Набажэнствы адбываюцца на прыватных кватэрах ці на вуліцы. Між тым вернікі Менску, Гомлі, Полацку, Віцебску, Гародні, Магілёва, Бягомля і Старых Дарогаў своечасова падалі ў свае гарадзкія выканкамы заявы на рэгістрацыю і на храмы. Амаль ва ўсіх выпадках уніяты – не адзіныя, хто прэтэндуе на пэўны храм. Вакол царквы ствараюцца і іншыя грамады, найчасьцей – праваслаўныя (у Гомлі – стараабрадцы). Самая складаная сітуацыя так і захоўваецца ў Полацку, сітуацыя, зьвязаная з Сафійскім саборам (гл. "Унія" №2, 1990). Паўсюль адносіны з уладамі пакуль што бязвыніковыя.

У нявыгодным становішчы апынуліся цяпер менскія вернікі. Ад самага Вялікадня (калі каталікі ўсходняга абраду прайшлі праз увесь горад хросным ходам да Петра-Паўлаўскае царквы і адслужылі там ранішнюю імшу) па нядзелях праводзяцца набажэнствы пад мурамі Петра-Паўлаўскае царквы. У траўні царкоўная грамада зьвярнулася ў гарвыканком з просьбаю аб храме. Адказ быў такі: да 1 ліпеня, згодна з Законам аб свабодзе сумленьня, рэгістрацыі ня будзе, і царква, адпаведна, ня можа быць перададзеная не юрыдычнай асобе; а пакуль – рыхтуйце гістарычную даведку пра Петрапаўлаўку. 10 чэрвеня з газэтаў даведаліся, што прэзідыюм гарвыканкама 6 чэрвеня вырашыў перадаць Екацярынінскую (Петра-Паўлаўскую) царкву вернікам Праваслаўнае Царквы. Улады парушылі імі жа прызначаныя тэрміны ў гонар прыезду на Беларусь патрыярха Маскоўскага і ўсея Русі Алексія ІІ. Безумоўна, у беларускіх уніятаў няма ані патрыярха, ані біскупа, хто мог бы ўразіць нашых урадоўцаў. Дай Бог праваслаўнаму прыходу удала існаваць у Петрапаўлаўскай царкве.

А уніяцкія набажэнствы пад Петрапаўлаўкай працягваюцца, бо іншага мейсца ўсё роўна няма, а людзей прыходзіць штораз болей. 1 ліпеня падалі ў гарвыканкам заяву на рэгістрацыю. Там паабяцалі за тры месяцы гэтае "складанае пытаньне" вырашыць. Будзем з малітваю чакаць...

**Янка Богдан**

*БЕЛАРУСКІЯ ЦУДАТВОРНЫЯ АБРАЗЫ*

# «НА ВОДАХ СВИСЛОЧИ ЯВИЛАСЯ ЕСИ»

## АБРАЗ МЕНСКАЕ БОЖАЕ МАЦІ

Беларуская хрысьціянская гісторыя поўная цудамі й дзівоснымі падзеямі, зьвязанымі з рознымі абразамі Божае Маці. Яны праменілі і праменяць сваё нябачнае духоўнае сьвятло, ахоўваючы нашую зямлю і ўсіх нас. І мы так мала ведаем пра іх, памятаем пра іх, аберагаем іх. Сьляды шмат якіх цудоўных абразоў згубіліся ў часе і ў прасторы, і толькі цьмяныя згадкі пра іх засталіся ў старых летапісах і кнігах ды ў народных паданьнях. Шмат абразоў вывезеных ў розныя часы зь Беларусі, некаторыя – засталіся на сваіх месцах, але апынуліся за межамі цяперашняе Беларусі. Кропля за кропляй выцякае ад нас – амаль не заўважаны намі! – наш неацэнны, наш найкаштоўнейшы духоўны скарб. Тым больш узрастае вартасьць абразоў, што і цяпер атуляюць Беларусь сваёю нявымоўнаю сьвятасьцю.

Адзін з найбольш цудоўных і славутых абразоў знаходзіцца цяпер у менскім праваслаўным Сьвята-Духавым кафэдральным саборы. Вось ужо амаль паўтысячагодзьдзі завецца ён Маці Божая Менская і мае, бадай, самую багатую сярод усіх беларускіх абразоў гісторыю.

Маляваў яго, паводле паданьня, евангеліст Лука. І сама Валадарка Нябёсная, пабачыўшы гэты твор, сказала: "Ласка Божая будзе з гэтым абразом няспынна". У 988 годзе вялікі князь Кіеўскі Уладзімір пасьля свайго хросту ў грэцкай Корсуні прывез гэты абраз у Кіеў ды зьмясьціў яго ў княскай Дзесяціннай царкве. За стагодзьдзі свайго знаходжаньня ў Кіеве Корсунскі шматцудатворны абраз Божае Маці стаў надзіва любімым і шанаваным сярод усіх вернікаў.

У 1500 годзе пад час разбуральнага татарскага набегу на Кіеў лёс абраза істотна зьмяніўся, і само існаваньне гэтае сьвятыні набыло іншы кшталт. Адзін з татараў, што кінуўся рабаваць Дзесяцінную царкву, сарваў каштоўны абклад з абраза, а саму ікону кінуў у Дняпро. Божаю ласкаю цудатворны абраз паплыў угору па рацэ і супраць плыні зь Дняпра праз Бярэзіну выйшаў у Сьвіслач, і за два дні да сьвята Успеньня Багародзіцы – 13 жніўня 1500 г. – спыніўся насупраць менскае Успенскае царквы паблізу зьліцьця Нямігі й Сьвіслачы. Абраз заўважылі па цудоўным сяйве ў рацэ і ўрачыста перанесьлі ў замкавы Успенскі сабор.

Ад таго моманту абраз Божае Маці стаў называцца Менскім і шанавацца шырока па ўсім Вялікім княстве Літоўскім. Зьявілася шмат копіяў Менскае Багародзіцы, і некаторыя зь іх таксама сталіся цудатворнымі.

За пяць стагодзьдзяў існаваньня ў Менску абраз некалькі разоў мяняў сваё месцазнаходжаньне. Першы перанос іконы – вельмі ўрачысты – адбыўся 18 кастрычніка 1616 г., у дзень сьвятога апостала і евангеліста Лукі. Уніяцкі мітрапаліт Язэп Вэльямін Руцкі блаславіў перанясеньне абраза Менскае Божае Маці ў базыльлянскую царкву Сьвятога Духа ў Верхнім горадзе.

На пачатку ХІХ ст. уніяцкія цэрквы і парафіі пачалі пераводзіць у Праваслаўе. Сьвята-Духаўская царква была таксама ператворана ў праваслаўную і набыла назву Петра-Паўлаўская. Абраз застаўся ў ёй. Але хутка пасьля прыходу савецкае ўлады, у 30-я гады, царква была ўзарваная, а цудатворны абраз апынуўся на дровавым складзе.

У часы Другое сусьветнае вайны абраз адшукалі і зьмясьцілі ў праваслаўнай Петра-Паўлаўскай царкве (якая з пачатку ХІХ ст. звалася Сьвята-Екацярынінскай), дзе ён прабыў да канца вайны. Потым у царкве зьмясьціўся архіў, а Маці Божую Менскую перанесьлі ў кафэдральны Сьвята-Духавы сабор у памяшканьні колішняга касьцёлу Бернардынак. Тут гэтая найбольшая сьвятыня Менску знаходзіцца і сёньня, і дорыць пацяшэньне людзям любога веравызнаньня.

*З трапара Менскаму Цудатворнаму абразу Божай Маці:* ***"На водах Свислочи явилася еси Пренепорочная Отроковице от Царьграда и Киева Богоспасаемому граду Минску милость показав..."***

Рэдакцыя шчыра дзякуе **Уладзіміру Арлову, Юрасю Беленькаму, Галіне Дубянецкай, а. Аляксандру Надсану** (Англія), **Алесю Палескаму** (Канада), **Ліе Салавей, Натальлі і Зьміцеру Санькам** і **Эдварду Тарлецкаму** за ахвяраваньні на фундацыю "Уніі".

Часопіс з удзячнасьцю прыме ахвяраваньні ад любой асобы ці установы, а таксама будзе рады знайсьці свайго мецэната.

*На першай старонцы вокладкі: Раство Хрыстовае. Мастак Алена Ткачова.*

*На чацьвертай старонцы вокладкі: Каляды. Малюнак Алены Ткачовай.*

*Малітвы на с.1 друкуюцца з малітаўнікаў "Божым шляхам" (Рым, 1946) і "Hołas dušy" (Vilnia, 1926).26).*

**УНІЯ**

ЧАСОПІС ХРЫСЬЦІЯНСКАГА СУМОЎЯ
№ 1 (3), 1991
Выдаецца з 1990 г

**Заснавальнік:** Сяржук Абламейка. Рэгістрацыйны № 178.
**Галоўны рэдактар:** Ірына Дубянецкая
**Адказны сакратар:** Караліна Мацкевіч
**Мастацкі рэдактар:** Алена Ткачова
**Рэдакцыя:** Ірына Бобер, Сяржук Вітушка, Галіна Дубянецкая, Генадзь Лойка, Андрусь Пазьняк, Эдвард Тарлецкі.
Думкі аўтараў могуць не супадаць з думкаю рэдакцыі. Рэдакцыя прымае матэрыялы памерам да 20 ст. машынапісу.
**ПІШЫЦЕ:** 220050, Менск-50, абанентная скрыня № 224.

**Наш рахунак:** № 700207 МФО 153001 код 767 у камерцыйным банку "Дукат" у г. Мінску.



Маці Божая Менская Адзігітрыя

